# ЛіМ Літаратура і мастацтва

4 КРАСАВІКА 2003 г. № 14/4200 КОШТ 530 РУБ.

АНОНС!

## МЫ — БЕЛАРУСЫ!

*"Няхай акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!"*

5

**Як ідзе капітальны рамонт будынка Беларускай дзяржаўнай філармоніі?**



10

**Аб праблемах, узнятых на Рэспубліканскім семінары па ідэалогіі — у артыкуле дырэктара РВУ "Літаратура і мастацтва" Таісы БОНДАР**

2



Фота Мікалая ПЯТРОВА

УЗНАГАРОДЫ

*Галоўную тэатральную прэмію года атрымалі народная артыстка Беларусі актрыса Нацыянальнага тэатра імя Горкага Вольга КЛЕБАНОВІЧ*

# «ПАЎЛІНКА» — ТЭАТРАЛЬНАЯ ПРЭМІЯ ГОДА

*і народны артыст Беларусі, акцёр ТЮГа Міхаіл ПЯТРОЎ.*

*НА ЗДЫМКУ: Міхаіл ПЯТРОЎ з "Крыштальнай Паўлінкай".*

Чытайце на стар. 3

# ЧАМУ ПАЭТЫ ПАМІРАЮЦЬ ТАК РАНА?..

**— разважае Уладзімір САЛАМАХА ў нарысе пра трагічны лёс паэта Віктара СТРЫЖАКА.**

Чытайце на стар. 4-5



# ІДЭАЛОГІЯ БУДУЧЫНІ — ІДЭАЛОГІЯ ЛЮБОВІ

Так, так, у наш трагічны час я асмельваюся сцвярджаць, што не за гарамі той час, калі спалучацца, сальюцца дзве сілы, якія нараджае толькі любоў, — сіла жыцця і сіла веры! — і ўсё людства свядома скіруецца насустрач сваёй найвялікшай мары, насустрач сваёй ісціннай свабодзе. Не той свабодзе, якая здабываецца, адваёўваецца ў барацьбе з іншымі, адрознымі па крыві, колеры скуры ці веравызнанні, а той, якая вызначаецца г а р м о н і я й у чалавеку і вакол чалавека, калі Бог бачыцца ва ўсім, ва ўсіх — на Зямлі і на Небе.

Згадайма, першыя чалавечыя абшчыны — цэлая эпоха, пра якую сведчаць вынікі шматлікіх археалагічных раскопкаў і даследаванняў, пазначана як першабытнаабшчынная. І вытлумачана ўсё дакладна і проста: супрацьстаяць націску дзікай прыроды і выжыць як від, як род, льга было толькі аб'яднаўшы намаганні ўсіх. І колькі пакаленняў сышло ў нябыт, колькі людской крыві пралілося перш чым наблізіліся мы да разумення, пачалі ўсведамляць, што як на пачатку часоў, так і цяпер (і да завяршэння шляху!) нам не выжыць як род, не аб'яднаўшы намаганняў, ведаў і памкненняў, не ўсвядоміўшы, што сапраўдны, сапраўды р а з у м н ы чалавек — гэта чалавецтва.

Канечне, можна сыходзіць з таго, што памкненне да еднасці (і шырэй — да братэрства) грунтуецца на інстынкце самазахавання, на інстынкце выжывання, уласцівым любому жывёльнаму (і не толькі жывёльнаму) віду, і ўсур'ёз гэтага ніхто з дасведчаных аспрэчваць не стане: усё — ва ўсім і ўсё — толькі часцінка (неўявіма малая, нягледзячы на тое, каго ці што сабою ўяўляе) Светабудовы, усё падпарадкавана Адзінаму Закону. І ўсё ж, праўда бачнага (і нават навукова даказанага) — яшчэ не ўся праўда пра Чалавека.

Мне скажуць: мы ніколі не ўведаем усяе праўды. Мажліва. Але шлях — доўжыцца, і хто ведае, што адкрыецца на гэтым шляху ўжо заўтра!

Ужо сёння, у нашы дні, усё часцей людзі ўсведамляюць сваю прыналежнасць не адно да роду чалавечага, да чалавецтва, але і да Космасу, да Сусвету, да Вечнасці, увасобленай у Богу — і значыць, у кожным Яго стварэнні і ў кожным з нас. І няхай колькасць такіх людзей вагаецца з веку ў век, з пакалення ў пакаленне, але лік даўно ўжо ідзе не на адзінкі, якім бы сумным маральны, духоўны стан сучаснага грамадства сёння ні ўяўляўся. Няма (і ніколі не было) большае задачы ў людства, чым нарэшце ўсвядоміць гэта і, усвядоміўшы, змяніць: лідэрства, што ў невялікай суполцы, што ў краіне, што ў свеце, павінна належыць не тым, хто да яго мкнецца, караскаючыся па спінах, а то і па галовах іншых, а тым, хто пасланы на Зямлю з гэтай місіяй, стаўшы відушчым (вярнуўшы прыналежную чыстай душы відушчасць), хто можа прапанаваць, паказаць астатнім кірунак, хто здольны ўзначаліць рух у гэтым (прадвызначаным для людства) кірунку.

"Сляпыя вядуць сляпых..." Калі сказана! А водгулле сказанага перакочваецца па ўсёй прасторы ўсведамляемага намі жыцця, так і не збудзіўшы свядомасці народаў: з адной крайнасці ў другую кідаецца то адзін, то другі ашалелы натоўп, то ў адной, то ў другой частцы свету, вытоптваючы, у пыл каторы раз патрушчанага часу затоптваючы парасткі новага, светлага. Здэцца, і спадзявацца няма ўжо на што, а спадзяванні не гінуць, не цьмянеюць. Здэцца, і пагукаць у гэтай крамешнай цемры няма каго на помач, а помач нам, сляпым і неразумным, ідзе адусюль, дзе жывы Дух Божы, дзе чутна Слова Гасподняе. Дзе б, іначай, мы ўсе апынуліся ў часе вечных сваіх блуканняў?

Вера ці бязверра — Святло ці цямрэча... Выбар заўсёды гэткі: хто б і ў якія б словы потым, па завяршэнні яшчэ аднаго прамежку шляху, ні загортваў прынятае некалі ці прымаемае ў пэўны канкрэтны міг рашэнне. Я разумею, што рызыкую выклікаць цэлы шквал абурэння, і ўсё ж гавару з усёй пэўнасцю, на якую здатна: Чалавек — у любым выпадку — не selt-made man, як яму сяды-тады ўяўляецца ў яго пагоні за зямнымі дабротамі ці чынамі, чалавек — сын Божы. І чым раней ён усвядоміць сябе ў гэтай сутнасці (нябеснай, к а с м і ч н а й сутнасці, удакладню, тым хутчэй пазбавіцца ад гардыні і духоўнае нікчэмнасці, якой не адчувае толькі таму, што не зазірае — баіцца зазірнуць! — у сваю душу. Баіцца, трэба сказаць, не дарэмна: не прыбрана там, насмечана за гады так, што і агеньчыку засвечанай на пачатку часоў лампады не ўгледзець, не тое што залатога зярнятка Святла, дараванага пры нараджэнні Айцом Нябесным. Зярнятка павінна было прарасці — і завалена смеццем пустых, нікчэмных слоў і злосных, зайздросных думак, святло павінна было ўзгарэцца — і засыпана тленам змарнаваных за жыццё імгненняў, попелам перагарэлых у бяздзейнасці спадзяванняў, сваіх і чужых. І ні разу, ніводнага разу не зляцела з вуснаў, не ўзляцела радаснае ці адчайнае: "О, Госпадзе!"

І не верыцца – страшна паверыць! — у падобнае, а павядзеш паглядам, узіраючыся ў твары вакол, і вымушана пагаджацца са зробленай не сёння высновай: не прыхавана, а п а х а в а н а вера ў аслеплых (аслепленых цёмнымі жаданнямі і нікчэмнымі памкненнямі) душах.

Свят, свят, свят! — як кажуць... Мо раптам надарыцца — у каго шчаслівае ўзрушэнне, у каго знакавая, лёсавая сустрэча — распраміцца, развіне крылы душа, абуджаючы любоў.

Перш — любоў, потым веру, хоць любіць, па вялікім рахунку, і азначае верыць, а сярод нас мала сапраўдных вернікаў, таму што ў нас мала любові. Нават да саміх сябе.

Так, так, я не агаварылася. Дзень і ноч "патрафляючы" сваім жаданням і патрэбам, пастаянна займаючыся толькі сабой, мы сябе не любім. Іначай не губілі б жыццё алкаголем і наркотыкамі, злосцю і лянотаю, зайздрасцю і вечнай ненасытнасцю ва ўсім, з чым сутыкаемся. Ужо ж, любіць сябе (Бога ў сабе!) і любіць усё тое, што прапаноўвае нам жыццё, спакушаючы (і выпрабоўваючы), не адно і тое ж. І чаму, скажыце, любая зёлка, на якую праліліся струмені дажджу і промні сонца, імкне вырасці, зацвісці, пераўзысці сябе самую, а чалавек, адораны звыш усякай меры і — праз дух, у духу — набліжаны да самога Тварца, не прагне ўдасканалення, не прасочвае запаведанае яму (і толькі яму!), узвышаючыся над будзённымі памкненнямі і думкамі сваімі, а церпіць усё новыя і новыя паражэнні? Чаму заўжды выбірае лягчэйшы шлях, і на міг не задумаўшыся, што немінуча дэградуе і зноў, усякі раз наноў змушаны будзе пачынаць усё спачатку, знізу? Чаму ўсякі раз імкнецца дамагчыся лепшага (як яму ўяўляецца ці як яму навязваецца) жыцця, а не с а м о м у станавіцца лепшым?

Колькі пракокаў пасылаў на Зямлю Гасподзь! Колькі святых пісьмёнаў пакідалі пракокі паўсюдна, на розных мовах Зямлі, каб не блукалі душы ў цямрэчы ў пошуку Святла Гасподняга! Колькі сыноў Святла як раней працавала, так і сёння працуе сярод людзей, дапамагаючы ім, абуджаючы дух, духоўныя памкненні людства! А многім і многім па-ранейшаму бракуе веры ў прадвызначанае — веры ў с я б е с а п р а ў д н а г а. Адны топчуцца ў вызначаным буднямі, будзённымі клопатамі крузе, другія, займеўшы першую ж магчымасць, кідаюцца з аднаго канца свету ў другі ў пошуку "таго, не знаю чаго", мяркуючы, што ёсць на Зямлі месца, дзе скарб (і гэта — пра скарб д у х о ў н ы) ляжыць на паверхні: прыходзь і бяры... І не, каб узгадаць, што тое, што на паверхні, і ветрам лёгка развейваецца, і дажджом размываецца, у балаціны ці расколіны трапляючы! Не, каб усвядоміць, што мы (кожны!) ужо з'яўляемся ўладальнікамі багацейшага скарбу, і гэты скарб — увесь Сусвет, усе Сусветы, і гэты скарб — у душы!

Здэцца, усё — так проста, а вось жа многімі не ўсведамляецца. Больш таго! — адпрэчваецца, адкідваецца як непатрэбнае... Так, для істоты-аднадзёнкі, што адно таму і нарадзілася, каб памерці, — непатрэбнае. Для ўсіх жа, хто па родзе сваім і паходжанні належыць да дзяцей Божых, — адзіна магчымае. Тлен тленам і развеецца, дух у духу і ўваскрэсне — калі сказана!

Калі я сцвярджаю, што мы не любім нават саміх сябе, то маю на ўвазе, што мы не дбаем пра свой духоўны рост, не вучымся слухаць голас духу, бачыць духоўны рост, не імкнемся жыць у суладдзі з іншымі, з Прыродаю, з Сусветам, і наўрад ці хто ўсур'ёз запярэчыць на гэта. Духоўная праца патрабуе не меншых высілкаў, чым самая цяжкая фізічная, больш таго! —не прызнае ніякіх кампрамісаў з сумленнем. Не прызнае не адно на ўзроўні думкі, але і на ўзроўні інстынкту, інстынктыўнага адчування: ні адвесці пагляду, ні ўтаіць сапраўдны намер, ні потым апраўдацца не ўдасца. Ніколі нікому не ўдавалася.

Выйсце? Каму і дзе ў нашы дні бачыцца годнае выйсце для ўсіх і кожнага, спытаеш ты, і адказ, калі ты прагнеш дакладнага адказу, давядзецца шукаць у старых Свяшчэнных Кнігах, чытаемых і перачытваемых з пакалення ў пакаленне не адно тысячагоддзе. Усё — сказана. Усё — адкрыта. Усё — адпавядае С л о в у, Закону Божаму, адзінаму для ўсяго і ўсіх з пачатку часоў. Мы заблукалі, таму што звыкла, у страху, заплюшчваем вочы і затыкаем вушы, таму што звыкла, у сваёй нязжытай гардыні, лічым сябе кавалямі ўласнага шчасця, не задумваючыся, па чым малоцім цяжкімі кувалдамі.

Пэўна ж, не дзеля "красного словца" прывяла я гэта параўнанне: усё, чаго кранаецца душа, усё, на што падае водсвет духа, — танчэйшая матэрыя, танчэйшыя энергіі, і адно чыстым памкненнем, крыштальна чыстай думкаю льга ўзаемадзейнічаць з душой — з духам! — з адкрываемай сфераю, з сабою ісцінным. І паверце ўжо мне, глыбока ўдзячнай Госпаду за дар т а к о г а бачання, т а к о г а адчування існага, большага шчасця для чалавека ні на Зямлі, ні на Небе не існуе. І галоўнае,



што трэба памятаць: шлях — адкрыты. Адкрыты для ўсіх, хто любіць Тварца, таму што верыць у сваё ісціннае сыноўства, у сваю прыналежнасць і Зямлі, і Небу.

Хто любіць... Вось ключ да запаведанага! Не адзін, а адзіны ключ, які ніколі ні ад каго не ўтойваўся, нікім ні ад каго не хаваўся. Здавалася б, пакарыстайся ім, выкарыстоўвай яго з дня ў дзень — і адчыняцца любыя дзверы, знікнуць любыя запоны, і не будзе для цябе ні ў адным са светаў ніводнае таямніцы. Ажно не, не ўсё так проста з гэтым ключом. Выкарыстаць яго можа любы — на самай жа справе, здольны выкарыстаць, дагэтуль карыстаюцца ім мала сказаць нямногія — адзінкі... Бо гэта патрабуе цяжкой штодзённай працы, працы не адно на сябе, не дзеля свайго дабрабыту ці спакою, а дзеля людзей, дзеля Зямлі і людзей, што яе насяляюць, дзеля ўсіх людзей, дзе б, на якой бы зямлі яны ні жылі.

Падобнае толькі прамаўляецца лёгка — жыць так неймаверна цяжка, а то і папросту немагчыма, асабліва калі не ўсведамляеш ні сваёй духоўнай сілы, ні свайго духоўнага шляху ў свеце прыніжанай, адпрэчваемай большасцю духоўнасці. Шляху, ва ўсе часы нялёгкага. Трэба ісці вызначаным шляхам далей — у ноч, у змрок, рассейваючы, расхінаючы яго сваім святлом, перамагаючы злосць і непрыманне любоўю. Л ю б о ў ю! Сілаю такой любові, якой скараюцца рэчы, людзі, духі, светы!

Скараюцца — не тое (не дакладнае) слова. А д г у к а ю ц ц а л ю б о ў ю. Так, так, часам насуперак сваёй волі, часам абсалютна падсвядома, не ведаючы, ды і не шукаючы тлумачэнняў, адгукаюцца тымі струнамі душы, якіх кранаюцца толькі любоўю, і большага цуду я не ведаю. Знікаюць насцярога, недавер, падазронае ўслухванне ў чужыя токі і эманацыі — усё паглынае, ачышчае, асвятляе і перайначвае магутная эманацыя любві. Тым больш магутная, чым больш Божае Волі праз яе праяўлена і праяўляецца, чым больш Нябеснага Святла праз яе пралілося і праліваецца, — Закон адзін, адзіны і неадменны для ўсяго і ўсіх, і ўсведамляе хто гэта ці не ўсведамляе, а скараецца, вымушаны скарыцца.

Уявіце: калі б сышліся, зліліся ўсе чыстыя агні сэрцаў, — якое б ззянне напоўніла ўвесь Космас, якое б сусветнае свята Любві настала! Ні войнаў, ні канфліктаў, ні злачыннага ігнаравання чужых правоў, ні злачынстваў... Па той простай прычыне, што ва ўсіх пануе любоў да ўсіх і ўсяго, прыносячы разменне: на каго б, на што б ні рабіўся замах, ён скіраваны супраць Бога; каму б ні адрасаваліся бомбы ці кулі, яны цэляць і пацэляць у Сэрца Бога, адкінуўшы чалавецтва на крок назад. Яшчэ на крок...

Самае простае і самае цяжкае (калі зыходзіць з гісторыі чалавецтва) з наканаванага нам: любіць шчыра, усім сэрцам, самаахвярна — не адно за хараство ўгледжанае, за дабро садзеянае ці сваяцтва суджанае, але і за маласць і слабасць, за нязжытыя цёмнасць і грахоўнасць. Любіць не слабасць, не цёмнасць і грахоўнасць, а іскру Божую — выяву Божую ў ёй! — якую нішто ніколі не зможа згасіць, пакуль жывая ў чалавеку душа.

Адчуванне (асабліва — першае адчуванне, калі да яго прыслухацца) рэдка каго падманвае: яно — заўсёды праява інтуіцыі, інтуітыўнага (вельмі часта — духоўнага) ведання. І калі б навучыліся мы скарыстоўваць яго сабе на карысць, меней скардзіліся б на розныя абставіны ці, больш таго, на глухату Неба. Усё — адкрыта, а мы ломімся ў намі ж узведзеныя вакол сцены, усе магчымасці закладзены ў нас ад нараджэння, а мы ўсё шукаем розныя мыліцы, апоры і падпоркі, перакананыя ў сваёй няздольнасці да дасканаласці. Ад таго і безабаронныя, падвержаныя розным хібам і хваробам.

Мяркую, папрок у тым, што ўсё задужа спрошчваю, не прамарудзіць, але ўжо хутчэй я прыняла б папрок у залішняй ускладнёнасці гаворкі. Ключ да ўсяго, да самага патаемнага ў нас і ў Космасе — Любоў, і гэта не патрабуе ні складаных вытлумачэнняў, ні чымсьці звышнавуковым абгрунтаваных доказаў. Калі ты л ю б і ш — табе падпарадкавана ўсё: пішацца музыка, складаюцца вершы, распускаецца падуладная тваім клопатам кветка, нараджаецца новая ідэя, прыгожым, прывабным становіцца непрывабнае, сілы падвойваюцца, патройваюцца... А ты — п р о с т а л ю б і ш, становячыся здольным (няхай часова, няхай толькі на гэты канкрэтны перыяд) на любы подзвіг, на любы крок, і здзейсніш яго ці не, залежыць не ад абставін, не ад удачы, не ад людзей ці дэманаў, а ад сілы твайго пачуцця, ад сілы любві.

Азірніся на сваё жыццё, прасачы за сваімі ўчынкамі ў розныя моманты, узгадай сваю першую ўлюбёнасць! Хіба заўважалася тады штосьці бруднае, гнуснае ці непрыгожае? Хіба ўзнікала жаданне штосьці зламаць, разбурыць, кагосьці абылгаць ці ўдарыць? Хіба прыходзіла ў галаву скардзіцца на жыццё, адкрываемае, успрымаемае ў святле, што выпраменьвала тваё ўласнае сэрца?

Нездарма свет любві называюць казачным светам, не толькі замкнёным у самім сабе, але і адкрытым усяму чыстаму і высокаму, што толькі страчаецца сярод людзей: улюбёныя, дзе б ні апынуліся, знаходзяцца ў вясёлкава-празрыстай абалонцы-аўры свайго кахання, ззянне якой закранае любога, хто апынуўся паблізу, чысціня якой абуджае ў сэрцах людзей розныя пачуцці (ад замілаванасці да зайздрасці) — і ўсё ж прасвятляе кожнае з іх.

Нам — усё дадзена, даравана ад нараджэння: ніводная сапраўдная патрэба не застаецца незадаволенай, ніводны справядлівы ўчынак не застаецца без узнагароды, ніводнае чыстае памкненне не прыносіць расчаравання. Ад нас патрабуецца адно — любіць. Любіць Айца нашага, Тварца нашага ў кожнай зёлцы і казюрцы, у кожнай расліне і птушцы, у кожным стварэнні і ў кожным чалавеку. У ко ж н ы м — вось самае цяжкае, бо трэба перш вызваліцца ад звычкі бачыць адно тое, што на паверхні, што не самае істотнае, бо часта наноснае і часовае. Зірнуўшы ўважлівей, зазірнуўшы глыбей, калі і не ўбачыш, то адчуеш: пакланіўшыся стрэчнаму, кім бы ён ні быў ці ні ўяўляўся, ты паклонішся Богу, Боскай іскры ў ім, што некалі ўзгарыцца, некалі абавязкова ўспыхне, бо ўсё стваралася і ствараецца па вобразе і падабенстве... Усё — мы ўсе! — толькі тая ці іншая праява матэрыялізаванага Духу, і некалі ж павінны прызнаць гэта і ў адносінах да сябе, і ў адносінах да ўсяго існага ў Прыродзе.

(Заканчэнне на стар. 15)

**Таіса БОНДАР**

# КАБ РАЗАМ СУПРАЦЬСТАЯЦЬ БЕЗДУХОЎНАСЦІ...



***26 сакавіка ў Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы адбылася сустрэча супрацоўнікаў і аўтарскага актыву Рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва" з галоўным рэдактарам часопіса "Наш современник" Станіславам КУНЯЕВЫМ і яго намеснікам Аляксандрам КАЗЫНЦАВЫМ. Адкрыў і вёў сустрэчу Эдуард Скобелеў.***



С. КУНЯЕЎ (справа) і А. КАЗІНЦАЎ



Галоўны рэдактар часопіса "Наш современник" Станіслаў Куняеў, расказаўшы пра сустрэчу з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам і інтэрв'ю з ім, якое будзе змешчана ў шостым нумары часопіса, падзяліўся ўражаннямі ад наведвання нашай краіны і Мінска. У прыватнасці, ён сказаў: "Лятуць гады і часам рукі апускаюцца перад велічынёй тых задач, якія стаяць перад намі, каб захаваць і ўмацаваць сяброўскія, творчыя адносіны з нашымі братамі-беларусамі. Але як гаворыцца: "Паміраць збірайся, а жыта сей" і мы робім усё, каб разам з вамі супрацьстаяць бездухоўнасці, якая на сённяшні дзень запаланіла ўвесь свет. Праўда, у нас сваіх праблем хапае. Расійскія ўлады мала клапоцяцца пра культуру, іх найбольш хвалюе палітыка. І да нашага Прэзідэнта з пытаннямі культурніцкага характару не дабрацца, а ў вас іншая сітуацыя і вы можаце час ад часу сустракацца са сваім Прэзідэнтам і кіраўнікамі ўрада. У 1996 годзе для нашага часопіса мы зрабілі першае інтэрв'ю з Аляксандрам Рыгоравічам Лукашэнкам. Яшчэ ў той час мы цвёрда вырашылі, што на старонках свайго часопіса будзем выхоўваць у чытачоў павагу да беларускага народа, да Беларусі. Можа, гэта некаму не падабаецца, але мы робім сваю справу, бо нашы народы павінны жыць у міры і згодзе, як гэта было да нядаўняга часу пры Савецкім Саюзе. У адрозненне ад выданняў вашага холдынга мы цалкам незалежныя ад дзяржавы выданні і гэта вельмі дрэнна, бо час цяпер як і ў вас так і ў нас, нялёгкі, каб жыць і праводзіць тую культурніцкую палітыку, якую ад нас чакаюць і якая патрэбна, без фінансавай дзяржаўнай падтрымкі. На жаль, у Расіі яшчэ толькі зараджаецца дзяржаўная ідэалогія, а без яе не пабудуеш моцнай і квітнеючай дзяржавы. Дзяржава—гэта не асобныя людзі, а гэта ажыццёўленыя людскія ідэі.

Многіх беларускіх пісьменнікаў я ведаю даўно і добра, але, на жаль, няма ўжо з многімі тых сяброўскіх адносін, якія былі. І ўсё ж я нікога не забываю і ўспамінаю добрым словам у сваіх артыкулах пра Беларусь. Я захоўваю іх пісьмы, кнігі з надпісамі і часам цяжка паверыць, чытаючы, што яны цяпер пішуць, што гэта яны былі маімі аднадумцамі.

У сваім часопісе з кожным годам мы друкуем і будзем друкаваць усё больш і больш матэрыялаў пра Беларусь. На прасторах Расіі шмат крымінальных груповак і я баюся, каб мы, ствараючы Саюзную дзяржаву, не заразілі вашу краіну крыміналітэтам. Пра гэта мы разважаем на старонках нашага часопіса. Чытачоў у нас пры тыражы ў адзінаццаць тысяч недзе 50-60 тысяч. І гэта ў параўнанні з іншымі выданнямі немалыя лічбы. Немалая ў нас і чытацкая пошта—недзе 10-15 пісем у дзень. І гэтыя пісьмы—найвышэйшая ўзнагарода за нашу працу."

У сваім выступленні намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Наш современнік" Аляксандр Казінцаў, які курыруе аддзел публіцыстыкі, у прыватнасці, сказаў: "Калі ў мяне на душы дрэнна, каб ачуняць, я еду ў Мінск, бо тут жывуць цудоўныя людзі, якія разумеюць мяне, з якімі я даўно і шчыра сябрую. Гэта і Эдуард Скобелеў, і Таіса Бондар, і Алесь Савіцкі, і многія іншыя. Яшчэ нядаўна Расія была адным з носьбітаў маральных каштоўнасцей, але паглядзіце, што мы маем сёння. Калі амерыканцы бамбілі Югаславію, кіраўніцтва нашай дзяржавы амаль маўчала і толькі тысячы простых людзей і інтэлігенцыя выступалі супраць непрыхаванай агрэсіі. А цяпер і наогул, калі амерыканцы і іх саюзнікі развязалі вайну з Іракам, у нас на мітынгі пратэсту, у адрозненне ад многіх краін свету, дзе выходзяць сотні тысяч і мільёны людзей, збіраецца сто, трыста чалавек. Адкуль гэтая абыякавасць? І нам трэба змагацца з абыякавасцю, з бездухоўнасцю, з амаральнасцю, з бесчалавечнасцю. У вашай краіне і ў вас мы бачым паплечнікаў у гэтым змаганні..."

Сустрэча паміж беларускімі і расійскімі пісьменнікамі ў Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы працягвалася больш за дзве гадзіны. Прысутныя змаглі даведацца, што ў бліжэйшых нумарах "Нашего современника" будуць змешчаны новыя творы В. Распуціна, Ю. Бондарава, В. Бялова, Ю. Кузняцова і многіх іншых вядомых расійскіх пісьменнікаў, а таксама беларускіх.

Н.К.

# «КРЫШТАЛЬНАЯ ПАЎЛІНКА» — ТЭАТРАЛЬНАЯ ПРЭМІЯ ГОДА



***Трэба адзначыць, што з часу заснавання Саюзам тэатральных дзеячаў Беларусі "Крышталькай Паўлінкі" ("За яркае таленавітае жыццё ў тэатры") гэтую прэмію ўпершыню атрымалі адразу два акцёры (нагадаем, што сёлета артыст М. Пятроў адзначыў свой юбілей). Але на Беларусі столькі цудоўных самабытных відачынцаў, што гэтая шчодрасць можа толькі радаваць.***

Разам з В. Клебановіч і М. Пятровым сёлета былі адзначаны прызамі і іншыя тэатральныя дзеячы Беларусі. Так, прызам "Крышталькая Зорка" ("За адданую дзейнасць на ніве тэатральнага мастацтва") была ўзнагароджана актрыса Брэсцкага тэатра лялек Т. Тэвасян. "Крышталькую Кветку" ("За лепшы дэбют") атрымаў акцёр Беларускага дзяржаўнага музычнага тэатра Д. Якубовіч. Сёлета ўпершыню была ўручана "Крышталькая Ластаўка" (прыз заснаваны ў памяць пра Г. Шылянкову-Воранаву яе мужам К. Воранавым) — яе атрымаў У. Лаўрухін за спектакль "Песні ваўка" (Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі).

Добрыя словы ў адрас тэатра прагучалі з вуснаў міністра культуры РБ Л. Гулякі, які побач з драматургам, кіраўніком СТДБ А. Дударавым уручыў шматлікія імянныя прызы, заснаваныя Мінкультам РБ і СТДБ. Прэміяй імя Л. Александроўскай была ўзнагароджана актрыса Беларускага дзяржаўнага музычнага тэатра Л. Кузьміцкая. Прэмію імя Е. Міровіча сёлета атрымаў рэжысёр Купалаўскага тэатра А. Гарцуеў (за спектаклі "Кім" і "Саламея"). Прэмія імя К. Крапівы была ўручана тэатразнаўцу Т. Гарбачанцы. Прэмію імя І. Буйніцкага павезла ў Гродна актрыса Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра А. Гайдуліс. А прэміяй імя Л. Мазалеўскай была адзначана пастановачная група спектакля "Русалачка" Гродзенскага абласнога драмтэатра.

Д. Г.



*НА ЗДЫМКАХ: "Крышталькую Паўлінку" з гонарам атрымоўвае актрыса В. КЛЕБАНОВІЧ; "прэміраваны" рэжысёр — А. ГАРЦУЕЎ.*

ФОТА К. ДРОБАВА

# «АЛЬБОМУ» ПЯЦЬ ГАДОЎ

У гэтым годзе беларускі праект "Народны альбом" святкуе сваё пяцігоддзе. Гэты музычны праект — супольная праца чатырох гуртоў: "N.R.M." "Kriwi" "Novaje Nieba" "Ulis", а таксама сольных выканаўцаў: Алеся Памідорава і Зміцера Вайцюшкевіча. А ўсяго ў "Народным альбоме" бяруць удзел 13 музыкаў.

Ля вытокаў праекта стаіць беларускі паэт і дызайнер Міхаіл Анемпадыстаў. Менавіта яму належыць ідэя, якую ён выношваў на працягу некалькіх гадоў. З яго дапамогай быў зроблены першы CD-дыск (1997), дзе тэксты песень напісаны таксама Анемпадыставым, які цяпер — прадзюсер праекта.

Увогуле "Народны альбом" — сумесь разнастайных стыляў, музычных



традыцый розных народаў. У гэтым праекце ёсць "жывая" народная мова, і дыялекты, і цытаты з іншых твораў.

Дэбют "Народнага альбома" ў Тэатры юнага гледача меў неверагодны поспех. З таго часу прайшло пяць гадоў, і цяпер на рахунку музычнага праекта 14 канцэртаў і ўдзел у музычных фестывалях у Польшчы і Францыі. Па матывах "Народнага альбома" была напісана п'еса, пастаўленая вучнёўскім тэатрам у Нацыянальным гуманітарным ліцэі імя Якуба Коласа. А пасля п'еса і песні "Народнага альбома" былі перакладзены на польскую мову і выдадзены асобнай кнігай з паралельнымі беларускімі і польскімі тэкстамі.

Як лічаць удзельнікі праекта, "Альбом" набывае ўсё большую вядомасць і робіцца сапраўды народным.

Кася Камоцкая кажа:

*— Напэўна, змянілася пакаленне, бо напачатку слухач не быў такі малады. А цяпер большую частку нашых прыхільнікаў складае моладзь, што вельмі прыемна. А што наконт самога праекта, дык спачатку гэта была голая творчасць, пабудаваная на голым энтузіязме амаль што без аніякай матэрыяльнай падтрымкі, а таксама без падтрымкі электронных СМІ. Але ж на здзіўленне "Народны альбом" стаў папулярным.*

*Мы, удзельнікі праекта, збіраемся не часта, але з вялікай радасцю. У кожнага з нас вельмі напружаны графік, але, нягледзячы ні на што, мы будзем працягваць нашу сумесную працу.*

Пяцігоддзе праекта беларускія музыкі вырашылі адзначыць шэрагам канцэртаў, першы з якіх адбыўся ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. Нягледзячы на вялікую колькасць месцаў, многія жадаючыя не трапілі на канцэрт, бо білетаў на ўсіх усё ж такі не хапіла. А тых, каму пашанцавала, чакала сапраўды цікавая імпрэза. Прагучалі песні розных народаў 20-30-х гадоў, перасцяваныя па-беларуску. Спявалі і пра настаўніка Рагойшу з-пад Ракава, пра шпіёнаў Болека і Лёлека, пра нявінную дзяўчыну Надзеньку і пра кантрабандыстаў. Адметную вобразнасць відовішчу надавала мэбля на сцэне, што ўжо зараз можна назваць антыкварыятам, а таксама касцюмы выканаўцаў, кожны з якіх ствараў пэўны вобраз таго селяніна або прадстаўніка інтэлігенцыі. А калі сабраць усе гэта ў адно, дык і ўзнікала тая атмасфера 20-х. Пры канцы канцэрта ў выкананні Касі Камоцкай прагучала песня "Простыя словы", якая стала сапраўдным гімнам гэтага вечара, бо пад першыя ж акорды гледачы ўсхапіліся са сваіх месцаў і ў працяг спявалі стоячы.

**Юлія ПАПОВА**



# ЁСЦЬ СВЕТЛЫ СВЕТ...



***Сцвярджаюць: выключны выпадак у нашай літаратуры — паэта прынялі ў Саюз пісьменнікаў пасля таго, як яго ўжо не стала. Тады яму было сорак гадоў. У творчым набытку — творы ў калектыўным зборніку, ды адзіная кніжка вершаў, выхаду якой ён чакаў добры дзесятак гадоў. Паэт гэты — Віктар СТРЫЖАК.***



Нарадзіўся Віктар Іванавіч Стрыжак 19 студзеня 1955 года ў вёсцы Заспа Рэчыцкага раёна. Памёр 11 красавіка 1995-га ў Мінску, на калідоры выдавецтва "Мастацкая літаратура", куды прыйшоў да сяброў і калег, такіх жа, як і сам, творцаў. Хлопцы тыя, хто вучыўся з ім на філфаку Бедзяржуніверсітэта, хто пазнаёміўся з ім пазней праз творы, калі Віктар жыў і працаваў на Палессі да чарнобыльскай бяды, таксама, як і мы, маладосцеўцы, заўсёды былі яму вельмі рады. Але ж нічым рэальным дапамагчы не маглі: хіба што падтрымаць маральна, ды іншы раз падзяліцца чым. І калі ўжо колькі слоў пра сяброў, дык і яны, мабыць, як большасць з нас у той час, разгубленыя перад тым крахам, што панаваў у рэчаіснасці, мала разумеючы, што адбываецца ў жыцці, добрасумленна паабівалі розныя парогі, каб уладкаваць дзе на працу яго, Стрыжака, чарнобыльскага выгнанніка. Але марна. А ён заўсёды спадзяваўся на дабро...

Калі я ўспамінаю Віктара Стрыжака, паэта і чалавека (а ўспамінаю, мабыць, як і многія, хто яго ведаў, часта), калі мы з сябрамі гаворым пра яго (а гаворым мы часта), чамусьці прыгадваю Міхася Лявонавіча Стральцова, нашага непаўторнага празаіка, паэта, літаратуразнаўца, крытыка. Успамінаю, ніякім чынам не параўноўваючы таленты, творчасць, а перш за ўсё, паўтараючы стральцоўскія словы, сказаныя ім ў апавяданні "Смаленне вепрука". А менавіта: "У таго, хто бярэ ў рукі пяро, надзея ёсць таксама". І далей, у тым жа творы: "О, паэт да таго ж бывае яшчэ крыху забабонным". Таму што: "Наіўны, ён хоча перамагчы сапраўднасць, ён верыць: я засцярогся ад бяды — бо сказаў". Чаму прыгадваю? Ды таму, што ў многім у гэтым творы Стральцова, у некаторых зрухах душы лірычнага героя чамусьці мне бачыцца не толькі сам Міхась Лявонавіч і іншыя нашы паэты, але і Віктар Стрыжак. Дарэчы, у свой час Стральцоў не адхіляў ад сябе і Віктара, як не адхіляў і многіх іншых маладых таленавітых творцаў і добрых людзей.

Дык вось, разам з іншымі бачыцца мне Стрыжак у задуме твора Міхася Лявонавіча. Маўляў, "Недзе ў нейкім горадзе, у вялікім свеце людзей, жыве сын — магчыма жанаты, а можа, і не." Вядома, ён "У дзяцінстве, у сваім вясковым дзяцінстве (...) быў надзвычай уражлівы хлапчук...". Да ўсяго: "...душа ягоная ўбірала ў сябе многа, і можна сказаць, што яна была надзелена здольнасцю разумення і хацення дабра, і разумення людзей, але не таго хцівага саманадзейнага разумення, заручанага з адзіным днём, а другога, журботнага і трохі безнадзейнага, без выгоды для сябе: яно благога чалавека прымушала шкадаваць гэтак жа, як і добрага, — хаця б за тое, што ён благі..."

Ёсць там, калі ўжо так, і шмат чаго іншага, нібы спісанага і з Віктаравага лёсу. У прыватнасці тое, што, як здавалася яму, "не можа быць на свеце чалавека, які, зведаўшы, не палюбіў бы яго: ну хаця б за гэтую ягоную прагу спагады і ласкі для сябе і для ўсіх!". І, здаецца, у падтэксце (а можа, мне ўяўляецца) перасцярога — такім ніколі не шэнціць у жыцці... Але наўшоў час, калі многае перайначылася ў жыцці, і Віктар, як і стральцоўскі герой, спазнаў "расчараванне і адчай, і нудліва-вінаваты позірк сяброў", а таксама тое, што далей па тэксце.

Вось такім уяўляецца мне і вобраз Віктара Стрыжака, шчырага і адкрытага чалавека, чый твар, як бы цяжка яму не было, заўсёды свяціўся дабрынёй. Таго Віктара, які верыў людзям, у тым ліку і тым, каму — адразу ж бачна было — верыць ні ў чым нельга. Таго Віктара, які, тысячы разоў апякаўся, але ад тых балючых апёкаў толькі ўсміхаўся: здавалася, ніякага знаку ў яго душы яны не пакідаюць...

Віктар, як сцвярджаюць тыя, хто ведаў яго шмат гадоў, заўсёды жыў надзеяй на дабро. Ва ўсім. І чаканнем дабра.

Я найбольш памятаю, як чакаў ён сваю кнігу "Рэха журбы". Дзесятак гадоў ляжала яна ў выдавецтве. Здадзеная ў набор (знарок прыводжу дакладна) 10.04.92, падпісаная да друку 08.11.93, пабачыла свет толькі на схіле 1994 года (усяго 3 аркушы), яна прынесла Віктару неймаверную радасць. Можа, найперш тым, што — "бо сказаў".

Тады Віктар, не маючы працы (закрыўся часопіс "Зрок", у якім ён трохі працаваў, пераехаўшы з Веткі ў Мінск і атрымаўшы як чарнобылец кватэру ў Малінаўцы), кожны дзень прыходзіў да нас у "Маладосць". У яго цяжкай жыццёвай сітуацыі кніга (пра ганарар рэчы няма, не той час...), нібы надала яму другое дыханне: "Буду пісаць!". Не толькі ад яго, хаця найперш ад Віктара , мы ведалі, што кніга выйшла выключна дзякуючы Рыгору Іванавічу Барадуліну, і што Барадулін, як рэдактар ухваліў. Што "ўхваліў" слынны майстар роднага слова, дык і так было зразумела: Барадулін ніколі не ўзяўся б апякаць шэрасць.

І калі мы, Гардзей, Казлоў, я, (асабліва з Гардзеем сябраваў Стрыжак), што і ведалі пра Віктаравы перажыванні, якія ён не скрываў, дык — зборнік!.. Але, бачылі, як яму цяжка без працы, як мы казалі, без хлеба, і нічым не маглі дапамагчы: мы многіх прасілі ўзяць яго на працу, ніхто не хацеў. Не, не таму, што быццам бы ён быў зломак і пісаў журналістыку, ці рэдагаваў паэзію, прозу, публіцыстыку горш, чым хто з нас, або тых газетных (адзін нават сябрам лічыўся) і часопісных начальнікаў. І не таму, што, нібы ўвогуле чалавекам быў мала да чаго здатным. Мабыць, з тае прычыны, што наступалі, умацоўваліся часы, калі "адкрылі шлюзы", якія раней стрымлівалі ў многіх з нас непрыстойнасць, абыякавасць да іншых, калі да таварышаў, да людзей наогул табе няма справы. І, помню, некаторыя такія кіраўнічкі, і іншая драбяза ў крэсельках, добра-такі ўразумела, што ёй асабіста трэба. Помню выказванне аднаго такога дзеяча, якога мы прасілі за Віктара: "Чаго вы клапоціцеся? Зараз — кожны сам за сябе".

Мы адкрыта абураліся: аказваецца, часам і наш пісьменнічак, як чалавек — драбната, нікчэмнасць (тады многія яшчэ не маглі зразумець, як могуць у творцы ўжывацца фальш і ўяўная дабрата, гуманізм і г.д.) , і, можа, адкрытасць гэта шкодзіла Стрыжаку. Віктар жа, здаецца, ні на каго не крыўдзіўся, нават на аднаго газетнага рэдактара, нібыта сябра, які не ўзяў яго на працу. Больш таго, перад намі (мяне дык той аббягаў) апраўдваў яго: "А што ён можа зрабіць? Над ім жа — начальства". Тым часам Віктар Стрыжак даваў даволі прыстойныя сюжэты на тэлебачанні, таксама спадзяваўся, але...

Не забыць, як адзін рэдактар, літаратар, аднойчы на падпітку "снизошел": маўляў, магу "пристроить" да кампаніі журналістаў і пісьменнікаў, якія пішуць парнушныя кнігі — вялікі попыт! Не бойся, прозвішча тваё там значыцца не будзе. А заробак — ого!

Вось тады ўпершыню бачыў я абуранага Віктара. Ён ажно счарнеў: "Шэлег нам цана, калі так! Што, адной рукой — цнатлівыя творыкі, а другой..." І выдыхнуў: "Га.но ў шлейках!"

Ну што ж, тады, як пасля мы разважалі ў сваёй кампаніі, і ў нашым пісьменніцкім асяродку пачало дакладна вызначацца, што зараз не столькі добрае слова нясе дабрабыт, а разбуральнае, гнілое. Не, казаў Віктар (прапанова ж тычылася яго), лепш з голаду сканаць, лепш пад плотам зваліцца, ды не такое...

Зрэшты, у сваім неразуменні таго, што дзеецца, што многія людзі, у тым ліку і асобныя літаратары, ні перад якімі маральнымі і іншымі прынцыпамі не спыняцца, каб сабе ЗАЙМЕЦЬ, быў ён непахісны, як сапраўдны паэт, чалавек. І якім бы ён для каго ні быў (у кожнага з нас сваё бачанне іншага), у маім уяўленні і разуменні — Віктар Стрыжак светлы паэт, і вельмі прыстойны чалавек. І — наіўны. У многім. Яго крыўдзілі — а ён апраўдваў сваіх крыўдзіцеляў... Яго падманвалі — а ён, ведаючы, што гэта падман, баяўся, каб чалавек той не зразумеў: ведае... Мне здаецца, што ён быў абсалютна безабаронным перад тым светам, у якім жыў. Ён абсалютна не здольны быў ні ў каго нічога прасіць, не тое, што выпрошваць, і гэта добра разумелі тыя начальнічкі, якія не бралі яго на працу.

Віктар быў шчыра рады, калі ўрэшце Мікола Трафімчук, займеўшы нейкую

уласную справу, узяў яго да сябе. Нейкі час, пакуль справа ладзілася, Віктар нібы акрыяў. Потым справа не пайшла. І зноў — шэрая, а можа, і зусім чорная паласа наступіла ў жыцці Віктара Стрыжака. І зноў ён гэта не паказваў, жыў, нібы так і павінна быць.

Мне здаецца (ва ўсякім разе я не бачыў), каб ён пратэставаў супраць фальшу і няпраўды. Зараз думаю: можа, ён жыў у сваім паэтычным свеце па-за імі... Ва ўсякім разе, думаю, духам ён быў вышэй за ўсё гэта, таму і не заўважаў. Хаця не разумею таго яго стану, калі баяўся ён пакрыўдзіць таго, хто яго крыўдзіў, сказаць таму ўсю праўду. І тым не менш, у некаторых сваіх вершах, паэт мог адкрыта абурацца, пратэставаць. Напрыклад, напісаў жа ён, здаецца, яшчэ ў маладыя гады верш "Свету", у якім дакладна абазначыў, што ўспрымае ў жыцці, а што — не. І не штосьці там дробненькае, прыватнае, а — цэлы свет. Маўляў, ты, "свет / Не крыві разумны твар". Маўляў, "Вар'ят / Я не на настолькі", каб не зразумець, што адбываецца.

Напэўна, не мне гаварыць аб паэтычных вартасцях верша, а вось пра пазіцыю чалавека, — ведаў якая... Там і прадбачанне: няўжо наступае час, калі "...за грош / Дубцом блыху пагоніш?". Ён жа такога не прымаў, бо ведаў, што:

*Ёсць іншы свет,*
*Ёсць светлы свет.*
*І чорны,*
*І відушчы.*
І пытае шчыра:
*"Чаму ж ты цягнеш*
*Побач след,*



калі ўчынкі тыя ваяўнічыя, разбуральныя, людзям шкодзяць. Знаў жа — яго пазіцыя...

Безумоўна, для некага з нас такі стан душы паэта Віктара Стрыжака нічога не значыць. (Што тычыць літаратуры, дык здаецца, сёння ні ў адной сферы духоўнай дзейнасці няма такой разбуральнасці, як у ёй. Хаця, увогуле, не ў літаратуры, загнанай і занядбанай, а ў падробках, калі "творит" хто толькі хоча.) Вось у такі час, пры такіх зменах у грамадстве, у свядомасці многіх з нас, а таксама, калі нямала хто спешна "корректировал" сваю жыццёвую пазіцыю, паэт Віктар Стрыжак апынуўся ў сталіцы

Гардзей пісаў ужо, як аднойчы Віктар Стрыжак у лесе каля Вязынкі адстаў ад нас. Тады мы цэлы дзень шукалі яго, баючыся, не дай Бог, што з ім здарылася: аднойчы ён не вытрымаў і ціха сказаў, што дужа баліць у грудзях...

Назаўтра я ўшчуваў Віктара: "Як так!" Ён усміхаўся: "Атрымалася..." А атрымалася наступнае: сустрэў Віктар нейкага дачніка-прасцяка. Разгаварыліся. Той запрасіў да сябе, пасядзелі па-людску. Дамоў Віктар вярнуўся з кошыкам памідораў.

Калі я ўшчуваў яго, Гардзей паблажліва казаў: "Што ты з паэтаў хочаш. Іх абараняць трэба..."

Так, не ведаю, як каго з творцаў, а Віктара Стрыжака сапраўды трэба было абараняць. Ад чаго і ад каго, думаю, сказаў ужо. Яго сябры Мікола Курганскі, Уладзімір Марук, Язэп Янушкевіч, Алесь Пісьмянкоў (тры апошнія суправаджалі труну ў родную паэтаву вёску Заспу, дзе ён пахаваны), як маглі дапамагалі Віктару, імкнуліся аберагаць ад усяго кепскага. Але ў кожнага свой лёс, сваё наканаванне...

Паэт (такі ў яго прыродны дар) Віктар Стрыжак хацеў жыць і тварыць у добрым, светлым свеце. У яго, наіўнага, светлага, як сам вызначыў, тым часам сэрца было па-ясенінску "сумам засеяна". Асабістае?.. Магчыма. А як грамадзянін, ён лічыў сябе "вечным даннікам" Радзімы за ўсё добрае і журботнае, што яна дала.

Я знарок не пішу тут пра творчасць Віктара Стрыжака: хто ведае, дык ведае. Хто захоча пачытаць зборнік "Рэха журбы" — пачытае. А хто не, дык не. Дабрыню і святло не навязваюць. У яго душы быў "светлы свет". Што важней за ўсё.

***"...душа ягоная ўбірала ў сябе многа, і можна сказаць, што яна была надзелена здольнасцю разумення і хацення дабра, і разумення людзей, але не таго хцівага саманадзейнага разумення, заручанага з адзіным днём, а другога, журботнага і трохі безнадзейнага, без выгодаў для сябе: яно благога чалавека прымушала шкадаваць гэтак жа, як і добрага, — хаця б за тое, што ён благі..."***

*Свет брудны*
*Свет, бяздушны?*
*Чаму ж так цяжка жыць,*
*калі*
*Два светы — свет адзіны?*
*Ды:*
*Не забівайце вухналі*
*У мазалі Радзімы...*

Але, наўрад ці зменіцца што ў іншай душы ад падобных заклікаў паэтаў. Зрэшты, кожны з нас сам робіць свой выбар. І калі сталееш, думаеш, марная справа некага асуджаць, што ён не такі, як ты. Дарэчы, гэта Віктар нам гаварыў неаднойчы, калі абураліся непрыстойным чыімсьці ўчынкам. (Мабыць, адсюль яго і ўсёдаравальнасць?) Але ж іншае, нікому, акрамя сяброў, непатрэбны. Зараз думаецца, што ён, зямны чалавек, проста тут не мог прыжыцца пасля Веткі...

Неаднойчы ў тыя часы мы, Віктар Гардзей, Віктар Стрыжак і я, махнуўшы на ўсё, ехалі ў Вязынку.

Купалаўскія мясціны, сядзіба песняра, ручаёк, яго дубы, палі, бярозавыя гаі восеньскай парою гаілі нашы душы. Калі ўжо тычыцца мяне, дык я, вадзіў паэтаў па грыбных мясцінах, дзе мы бралі чорныя грузды, радоўкі, зялёнкі і падзялёнкі, а часам і баравікі. Адчуваў: тут паэтам добра. Тут бесклапотна і ціха. Тут чутно, як спакойна дыхае зжатае, у светлым іржышчы, поле. Тут бачна, як мяняюцца колеры лесу з кожнай хвілінай — ад узыходу да захаду сонца...

**Уладзімір САЛАМАХА**

*НА ЗДЫМКАХ: Віктар СТРЫЖАК, сярэдзіна 90-х; з Віктарам ГАРДЗЕЕМ, 1994; чэрвень 1990; з Уладзімірам МАРУКОМ, Алесем ПІСЬМЯНКОВЫМ, Вязынка, май 1976; з сынам Артурам, Ветка, верасень 1988.*





ЗАХАРАВА, 19





## МЫ — БЕЛАРУСЫ!

Як горда, як пашанотна павінны гучаць два гэтыя словы ў сэрцы кожнага з нас! **Мы — нашчадкі славутага старажытнага славянскага роду, дзеці зямлі, што, нягледзячы на ўсе навалы, войны і катастрофы, якое ўжо стагоддзе корміць-поіць нас, і мы абавязаны памятаць пра гэта.** Абавязаны — і перад продкамі, што не далі вынішчыць ні зямлі, ні мовы сваёй, і перад нашчадкамі, што ўзжадаюць і чыстае крынічнае вады, і чыстага, спеўнага слова беларускага, бо і ім, як нам, не жыць без гэтага...

Як пацвярджае шматвяковы вопыт, **ніякія і нічые ўказы і загады не створаць нічога ні ў эканоміцы, ні ў культуры, калі грамадскасць — усе мы! — будзем абыякавымі і бяздзейснымі.** Усё — і ва ўласным дабрабыце, і ў дабрабыце нашай краіны — залежыць ад нас. Ад нашай адданасці сям'і, справе, Айчыне. Ад нашай упэўненасці ў сваёй сіле, у сваёй праваце. Ад нашай перакананасці ў сваім праве гучна, горда заявіць усяму свету: мы — беларусы!

Няхай жа акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!

**Узгадайце род свой, азірніцеся на жыццё сваё, на ўсё, што выклікае ў душы пачуццё гонару, — і пішыце.**

Агульнымі нашымі намаганнямі кніга "Мы — беларусы!" пазначыць наша месца ў свеце і ў часе, былым і цяперашнім, стаўшы кропкай адліку для новага стагоддзя, для новага тысячагоддзя.

**Пішыце на адрас: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"; E_MAIL gazeta_lim@tut.by.**

## НАЎЗДАГОН

# АДМЕТНАЕ Ў ЗАЎСЁДНЫМ

Шапацііць пад гарачым стэпавым ветрам сухі кавыль, шэпча — маркоціцца, скардзіцца, спадзяецца? — нешта сваё, невымоўна-невыразнае, пясчаным пагоркам і высокаму сонцу, цягнецца да святла і волі... Менавіта так убачыў і адчуў, адлюстраваў у фарбах мастак Раман Кондрад паэзію Рыгора Сакалоўскага, зборнік вершаў якога пад назвай "Счастье земное" выпусціў Беларускі саюз журналістаў.

*"Для чего мы на этой*
*Земле родились*
*И какую играть нам*
*Отведено роль?"* —

бяжыць чырвонай ніткай праз радкі, раздзелы, старонкі, б'ецца ў скронях, вярэдзіць душу і памяць. Бяжыць ад бацькоўскага парога, ад роднага кутка на ціхай Палтаўшчыне, дзе палымнее "рябины огонь" і "вызрел золотистый хлеб", дзе ў старых скрынках захоўваюцца баявыя ордэны і медалі і дзе дагэтуль, здаецца, чакае маладое няспраўджанае каханне. Дзе вытокі і пачатак таго дзіўнага —"времен круговращенье, — нервущаяся нить..." — спалучэння звычайнага і незвычайнага, роздуму і прадчування, выпадку і заканамернасці, што заўжды вымагае "оставаться собой — пусть измена и склоки",— спалучэння, якое ператварае шэрую будзённасць— праз здрады, расчараванні, крыўды — у святло паэзіі. "Для чего" сустрэчы і расстанні, "для чего" ніколі не вернецца "бесшабашное время", а маці з бацькам прыходзяць толькі ў снах? Р.Сакалоўскі валодае рэдкай здольнасцю ўбачыць адметнае ў заўсёдным, напоўніцу захапляцца прыгажосцю навакольнага, заўважыць у надакучлівай мітусні тыя часам незаўважныя праявы існага, што заўжды побач, з якіх, уласна кажучы, і складаецца простая і па-зямному шчаслівая сутнасць чалавечага быцця, і сказаць пра тое шчыра, цёпла, ад сэрца — самому сабе і сябрам, родным і блізкім, любым і дарагім:

*"Как разгадать*
*Березовую грусть*
*В мелодии Чайковского*
*Нетленной?"*

Цыкл "О самом дорогом" — успаміны пра вірлівую маладосць, спроба мастацкага асэнсавання перажытага і зробленага, здзейсненага і н798здзейсненага, доўгачаканага і нечаканага зусім. Няўмольны гадзіннік на старой вежы, строгія абеліскі, маленькая вёска — успамін далёкага дзяцінства... І толькі сам чалавек, на думку аўтара, у адказе за свой лёс і шлях, за свае ўчынкі і справы — "в развале виноваты сами"— за свой час і сваё жыццё. На зломе стагоддзяў — "и смотрит двадцать первый век на нас открытыми глазами", — прыпыніцца, азірнуцца, узгадаць: добрае і благое, сапраўднае і зманлівае, хуткаплыннае і адвечнае. Адказаць самому сабе на "нязручныя", а, здараецца, і "непатрэбныя" пытанні, прыслухацца да голасу ўласнага сумлення, воклічу сівых часоў. І крочыць далей, у невядомае пакуль што заўтра, несучы сваё разуменне свету, абараняючы тое, што ні ў якім разе немагчыма аддаць, забыць, кінуць, крочыць з непахіснай верай у справядлівасць, у немагчымасць збочыць, адрачыся, адысціся ўбок. Багата вандраваў аўтар па краіне і за яе межамі, своечасова адгукаўся на падзеі сучаснасці, шукаў адказаў на злабадзённыя праявы жыцця. Давялося пабыць яму і "...на той кровавой, проклятой войне", якая, высмоктваючы апошнія кроплі вільгаці з салдацкай фляжкі, спапяляючы невыноснай смагай, прымушаючы глытаць пыл, вяла прафесійнага журналіста па небяспечных дарогах Кандагара і Баграма, Герата і Файзабада. Менавіта асэнсаванню тых падзей, прысвечаны вершаваны цыкл "Желтый ветер Гиндукуш".

Маляўнічае адлюстраванне гаюча-светлага, радаснага, жыццядайнага і нязменна-неабходнага ва ўсе часы — узімку і ўлетку, пад цёплым веснавым дажджом і самотным восеньскім днём — хараства, якое адно толькі і дапамагае "оставить добрый след", нясе "души преображенье", супакаенне, прарастае новымі памкненнямі і надзеямі ў юнацтве і ў сталым веку — "Мелодии года". А побач — "Признание в любви" — пяшчотны матыў зямнога чалавечага пачуцця з усімі ягонымі колерамі і адценнямі, стратамі і набыткамі: ціхае спадзяванне, прытоенае сумненне, доўгае чаканне. Заінелае вакно, забытая сцяжынка, невыразны след... Гартаеш зборнік — і ахоплівае, не пакідае адчуванне такога звычайнага, простага шчасця, гэтак неабходных кожнаму цеплыні і дабрыні, якіх, здараецца, сёння нестае.

Марыя РУДОВІЧ

## КРЫТЫКА

# АПАЛОГІЯ РЭАЛІЗМУ




Найноўшая беларуская літаратура смелая сваім **рэалізмам** — ad absurdum айчыннага сацыякультурнага кантэксту. Вонкавы Кантэкст збольшага не мае ўяўлення ні пра яе традыцыйнасць, ні пра імпэтныя намаганні памянёную пераадолець. Родны "масавы" чытач упарта не хоча натхняцца эксперыментальнымі экзерсісамі — ці, прынамсі, удала прыхоўвае сваё захапленне (замілаванне).

Між тым паказ жыцця ў формах самога жыцця (урэчаўленне прынцыпаў рэалістычнай эстэтыкі) сёння можа мець вынікі **фантастычныя**, г.зн. лагічна несумяшчальныя з рацыяналістычнымі ведамі пра рэчаіснасць.

Апавяданні Раісы Баравіковай, сабраныя ў кнізе "Вячэра манекенаў" і выдадзеныя "Мастацкай літаратурай" напрыканцы 2002 года, ідэнтыфікуюцца ў анатацыі з жанрам **"псіхалагічнай фантастыкі"** — "у выніку атрымліваюцца займальныя і **вельмі праўдзівыя** (вылучэнні тут і далей у цытатах мае. — **І. Ш.**) сюжэты на тэмы жыцця і смерці, кахання і расчараванняў". Не варта заўчасна ўпікаць выдаўцоў (што мусяць "спакушаць" чытача ўсімі даступнымі ім сродкамі — ад цьмяных дэфініцый да рэкламных слоганаў) у супярэчлівасці абяцанняў. Бо сёння чым больш а д э к в а т н а беларускі пісьменнік імкнецца адлюстраваць навакольнае быццё — тым незваротней ягоная ўганараванасць цярновым вянком "сюррэаліста", "абсурдыста" ці, у лепшым выпадку, "фантаста".

"Ігар Апанасавіч **быў рэалістам**. Не верыў ні ў якую д'ябальшчыну, але тут міжволі адступіў назад. Перад ім стаяў ён сам" ("Ля берагоў Аўстраліі").

"Мікола Іванёнак вяртаўся дадому позна. <...> Ён сцягнуў з плячэй куртку, павесіў на вешалку, засунуў у кішэню ключ і... здзівіўся. <...> У руцэ ён трымаў пачак... сторублёвак, шчыльна сцягнуты паперкамі. <...> **Ён быў рэалістам**, добра ведаў, што грошы не знаходзяць у кішэнях, калі іх туды не кладуць..." ("Перакрыжаванне-777").

У абодвух працытаваных творах вылучаныя фразы — бадай, ці не адзіная "прамая" характарыстыка галоўных герояў з боку апавядальніка: ёю нібыта акрэсліваецца светапоглядное "крэда" (ці "тэрыторыя існавання") персанажа, якое па ходзе разгортвання дзеяння ўсяляк "дыскрэдытуецца".

Так, літаральна ў кожным апавяданні Раісы Баравіковай маецца вобраз своеасаблівага "бога з машыны" — як бы дэманічныя істоты са "Шляхціца Завальні" Яна Баршчэўскага ("нейкі дзіўны чалавек", "незнаёмы", "чараваты карузлік" і да т.п.) "транзітам" швэндаюцца ў нашым часе. Прычым сам факт іх наяўнасці, па вялікім рахунку, дзівіць выхаваных на "дыялектычным матэрыялізме" суайчыннікаў значна менш, чым можна было б чакаць. Шахцёр Аляксей ("Памылка Малой Галактыкі"), што цудам ацалеў пасля выбуху ў шахце, насамрэч (?) наведаў Малую Галактыку, спасціг памылковасць чалавечага існавання ("Усе мы тут на галаву слабыя. Ніякага вопыту свайго не памятаем. Паўсюль гніль. Войны, распуста... **А што да нас, беларусаў, дык мы нават мовы сваёй як след успомніць не можам")**, распавёў пра тое жонцы Каці — і выкінуўся з балкона. Праз тыдзень пасля трагедыі жонка панесла яму на магілу астры — і сустрэла бухгалтарку, што жыла ў суседнім пад'ездзе: "Абедзве спыніліся, і бухгалтарка сказала ціха:

— Табе не трэба ісці туды, Кацечка. Не паверыш... Дзіва нейкае ці насланнё? Гэта ж я стаю ля цётчынай магілы, а тут фугас нейкі зверху, бліщчасты, агромністы, як шугане! І раскрыўся, і адтуль нешта кульнулася... Гляджу, жанчына! Ва ўсім блакітным, ну, чыстае неба! І ўжо стаіць яна ля магілкі твайго Аляксея... І ўпала яна на магілку. І плакала... Як жа яна плакала, проста білася ўся! Ты не думай... я не з п'яных вачэй. Што ты на гэта скажаш?

І ў Каці не знайшлося слоў, каб штосьці сказаць ёй у адказ".

Дарэчы, асветніцка-дыдактычныя і прароцка-выкрывальныя функцыі аўтар ускладае пераважна на "інфернальных" персанажаў. "...Сусвет сціскаецца і пашыраецца. Яго будова бурыцца, каб праз мільёны гадоў аднавіцца зноў, але ў тым самым парадку. Няма канца — ёсць бясконцае паўтарэнне выключна ўсяго", — гэта ўрывак з лекцыі "незнаёмца" (alter ego Ігара Апанасавіча Халадневіча ("Ля берагоў Аўстраліі")). [Між іншым, да падобных "спічаў" з лектарска-ментарскім ухілам маюць цягу і некаторыя героі — нястомныя "піянеры"-першаадкрывальнікі іншабыцця ў звыкла абсурдным быцці, — Юры Станкевіча (гл. аповесці "Бесапатам", "Псеўда", "Збіральнік страху" і інш.).] Сам Халадневіч, здаецца, паспяхова засвойвае "майстэрства рыторыкі", бо ў фінале аповеда агучвае выснову-рэзюме з відавочным разлікам на аўдыторыю-"арэапаг" (бадай, не дужа пранікліваю): "Ён расшпіліў верхні гузік кашулі, пакутліва пацёр скроні:

— Як не паверыць у наканаванасць чалавечага лёсу!"

Не бракуе трапнасці і Валеры з "Вячэры манекенаў" (хоць ён, можа, усяго толькі "зрокавая галюцынацыя" Вольгі, што праз многа гадоў наведвае родную хату на Гомельшчыне — "Зона, страшная зона, куды не павінна

# ЧОРНАЯ ПРАЛЕСКА, РУЖОВАЯ РАСА...

"Казкі любяць усе. І чытаць, і прыдумваць. Асабліва дзеці. Гэта якраз той узрост, калі хлопчыкі і дзяўчынкі, юныя казачнікі, ужо ўмеюць даволі самастойна думаць, знаходзіць цікавыя сюжэты, асэнсоўваць іх... Яны як бы нагадваюць нам: казкі жывуць усюды. Трэба толькі ўмець фантазіраваць..." — так піша ў прадмове паэт Мікола Чарняўскі да кнігі "Казкі дзяцей Беларусі", якую ён уклаў і апрацаваў. Трэба сказаць, што гэта не першая такая кніжка. Падобная да яе выйшла ў 1995 годзе. Яна была перакладзена на англійскую мову і цяпер ужо стала бібліяграфічнай рэдкасцю.

Таму выданне новай кнігі, як кажуць, наспелаю За гжтыя сем гадоў дзецьмі было напісана шмат казак. Яны змяшчаліся ў дзіцячым друку, гучалі ў радыёперадачы "Першыя сцяжынкі", дасылаліся на міжнародны конкурс "Карнавал казак", які праводзілі Беларускі дзяржаўны інстытут праблем культуры і рэдакцыя часопіса "Вясёлка". Некаторыя казкі сам Мікола Чарняўскі браў непасрэдна ў юных казачнікаў на розных святах і падчас сустрэч у школах і бібліятэках. У выніку атрымалася незвычайная, унікальная кніжка. Увайсці ў яе казачны свет — асалода, а часам і падстава задумацца, не толькі юным чытачам, але і дарослым. Фантазія дзяцей не мае межаў: ад традыцыйных герояў казак — паноў, добрых малайцоў, чараўнікоў, прынцэс, красунь, ведзьмакоў — да сённяшніх рэалій — сучасных Зла і Дабра, асэнсавання праз казку чарнобыльскага няшчасця. Шмат у дзіцячых творах прадстаўнікоў расліннага і жывёльнага свету: звяроў і птушак, дрэў і кветак. Яно і зразумела: самі аўтары жывуць сярод роднай вабнай прыроды. Яна ж і дае ім тэмы, дапамагае знаходзіць герояў казак.

Аўтары прадстаўлены з усёй Беларусі. Яны вучні часцей сярэдніх школ, гімназій, школ мастацтваў.

Вось Лена Талпека з Селішчанскай СШ Слуцкага раёна са сваёй казкай "Дзяўчынка Песня": "Жыла некалі дзяўчынка, у якой было незвычайнае імя — Песня. Працавітая, добрая, яна вельмі прыгожа спявала. Аднойчы вырашыла дзяўчынка пайсці ў свет — людзей весяліць. Прыйшла яна ў вялікі горад. А там усе нейкія злосныя, панурыя. Пытаецца дзяўчынка ў сумнага юнака:

— Чаму ў вашым горадзе людзі не ўсміхаюцца?

— Тры гады прайшло, як на трон сеў кароль Сум, — адказаў той. — Ён усім загадаў не ўсміхацца, не гаварыць добрых слоў.

Дзяўчынка вырашыла дапамагчы людзям. Яна заспявала. Людзі, слухаючы яе, таксама заспявалі вясёлыя, жартоўныя песні.

Кароль Сум даведаўся пра дзяўчынку і паслаў слуг злавіць яе і кінуць у цямніцу. Але яна ператварылася ў жаўрука і праляцела над зямлёй, дорачы ўсім свае песні". Як тут не задумацца над такой казкай? І якая сімпатычная перад намі гераіня!




А гэта Іра Красоўская з гімназіі-каледжа № 24 г. Мінска з казкай "Зорачкі": "Маленькі хлопчык глядзеў, як з неба да яго ляцела зорачка. Яна заляцела ў яго пакой і зашаптала:

---

*"Казкі дзяцей Беларусі". Укладальнік Мікола Чарняўскі. Мінск. "Мастацкая літаратура", 2002.*

ступаць нага чалавека!" — і назірае за бясконцай вячэрай, якую ладзіць яе маці-нябожчыца): "...Мы цяпер, Іванаўна, што тыя манекены, прымералі на сябе заразу гэтую і паказваем усяму свету, што з намі тут адбываецца". Формула быцця пасля ўсталявання нябыту.

Калі сучасная фантастычная літаратура ў сукупнасці паўстае "футуралогіяй катастрафізмаў" (прычым уласна фантастыка адрозніваецца ў гэтым сэнсе, скажам, ад фэнтэзі, як АПАКАЛІПСІС ад апакаліпсісу), дык сфера "псіхалагічнай фантастыкі" — **паводле Раісы Баравіковай,** — не выключае утапічных сцэнарыяў. Апавяданне "Я не Вальтэр, але..." датаванае 1994 годам. Раніцай 11 мая года 2007-га гераіня прачынаецца васьмідзесяцігадовай: "...ляжу, з асалодай пацягваюся, любуюся парычком... які сёння ўпрыгожыць за юбілейным сталом маю не такую ўжо прывабную галоўку. <...> Я не Вальтэр, але прыемна атрымаць чарговы ліст ад прэзідэнта і развеяць нейкія ягоныя сумненні ці нават паспрачацца наконт той ці іншай астранамічнай тэорыі". Высвятляецца, што нават у дачыненні да блізкай будучыні — 1996 год ва ўяўленні 1994-га, — фантастычна скіраваная "псіхалогія" можа быць надзіва (да "цудоўнага") букалічнай, да замілавання пастаральнай: "Прэзідэнт пачаў у сваёй рэзідэнцыі наладжваць паэтычныя чытанні, дзе арганізоўваліся невялічкія кніжныя выстаўкі, куды запрашаліся аташэ па культуры розных дыпламатычных прадстаўніцтваў. З іх дапамогай шмат хто пачаў перакладацца на іншыя мовы, пачалі выходзіць нашы кніжкі ў Чэхіі, у Італіі, у Германіі... Вось так з дапамогай нашага першага прэзідэнта мы і пачалі ўлівацца ў агульначалавечы літаратурны працэс".

Затое ў фабульным плане "псіхолага-фантастычныя" аповеды Раісы Баравіковай уразяць змушанага спажыўца жыццёва-культурнай "неаготыкі" практычнай адсутнасцю выштукаваных сюжэтных "вычварэнняў": "Гальшанскі трохкутнік" — варыяцыі на тэму "ўварвання" гісторыі ў сучаснасць; "Ты, я і Валодзя" — інкарнацыя пастулата пра адсутнасць дакладнай грані паміж мастацтвам і рэчаіснасцю (з "матэрыялізацыяй пачуццёвых уяўленняў"); "Далінка" — адзін з эпізодаў хронікі блукання (затрымкі) душы паміж гэтым і тым светам...

Зрэшты, сёння хутчэй паверыць у нерэальнасць рэчаіснага, чымся ўсумніцца ў рэчыўнасці ірэальнага. Літаратару (тым больш айчыннаму) усё цяжэй канкурыраваць з "будзённым жыццём" — у сэнсе пакручастасці фантазіі. Да таго ж, чалавечая экзістэнцыя няўмольна "віртуалізуецца", і спрэчкі пра тое, што больш умоўнае — жыццё ці літаратура, — набываюць "якасць" рытуальных турніраў. Аднак асобныя дэталі ў апавяданнях з "Вячэры манекенаў" абнадзейваюць-такі рэалістаў "традыцыйнай арыентацыі" — маўляў, тыповыя характары яшчэ можна "ашальмаваць" альбо "дэфармаваць" у духу "эпохі Пост", але тыповыя — родныя! — абставіны не выпусцяць з абдоймаў: "Божа. Як заснуць? Як заснуць?! Гэты бязлітасна спякотны чэрвень, душны вечар і Вася пад балконам. <...> Вася, які ўжо на добрым падпітку, гэта чулася ў ягоным голасе, паказваў сваю паперку яшчэ аднаму майму суседу, які жыве на паверх ніжэй, — Сенечку. І дарэмна. Таму што Сенечку, як гаворыцца, да фені Вася і ягоная паперка. Сусед Сенечка думае пра сваё: як гэта захаваць бадзёрасць духу як мага далей, каб не спаць. Зусім не спаць. Таму што Сенечку палохаюць ягоныя сны. А мне баліць сэрца, у мяне кепскі настрой і ў мяне ўсё наадварот, не гэтак, як у суседа Сенечкі. Я хачу заснуць, і мне не спіцца. Бедны Вася! Бедны Вася!" ("Аўтограф ад Спілберга").

Вось і ў апавяданні "Кава для дамавіка" рэальнасць не цалкам капітулюе перад інфернальнасцю: "хтосьці ці штосьці маленькае і жудаснае", седзячы на табурэтцы, пакалыхвае ножкамі, **"абутымі ў зялёныя боты з шырокімі халяўкамі"** — і ён ("высокі, усмешлівы, гаваркі, яшчэ даволі малады мужчына" — па словах сяброўкі, ці не рыэлтэр, спец па абмене кватэр) прымушае так моцна біцца яе сэрца, што яна "не звярнула ніякай увагі на даволі моднае скуранае кепі, нацягнутае ледзь не на самыя вочы, і **зялёныя боты з кароткімі шырокімі халяўкамі". Такія вось катаклізмы рэалізму**.

А ўрэшце, як бы ні псіхалагізавалі пісьменнікі фантастычныя люстрункі рэчаіснасці, апошнім з рэалістычнымі адбіткамі не зраўняцца — у сэнсе ўплывовасці на падсвядомасць айчыннага чытача. Беларуская літаратура асуджаная на рэалізм — бо nemo potest dura naturae solvere jura (ніхто не можа змяніць суровыя законы прыроды).

**Ірына ШАЎЛЯКОВА**

---

— Міленькі хлопчык, я — зорачка твайго жыцця... Я нарадзілася ў той жа дзень, калі і ты, і памру разам з табою. Бачыш? Паглядзі... Я вельмі маленькая, бо і ты маленькі, а калі вырасцеш, то і я стану вялікай і вельмі прыкметнай на небе. А ты тут, на зямлі, станеш вядомым чалавекам. Я так жадаю..." Ну хіба гэта не цэлая філасофія жыцця чалавека, яго астральнае вызначэнне?

А ў гэтай казцы наш нацыянальны боль — чарнобыльскае нашэсце. Яе аўтар — Аляксандра Афанасьева з Барысаўскага раёна. Называецца казка "Чорная пралеска": "Прыйшла ў Прыпяць-горад бяда: з-за недагляду людскога ўзарвалася цуда-машына, і заслала ўсё навокал чорным попелам, як крумкачовым крылом. Пачало сохнуць лісце на дрэвах, пажоўкла трава ля дарогі, а блакітная пралеска стала чорнай. Шмат людзей загінула ад гэтай бяды — чорнага попелу... "Чорная пралеска нагадвае людзям пра тое, што нічога на зямлі не праходзіць бясследна, аб тым, што ўсё ў жыцці трэба рабіць з розумам ды развагай. Тут, як кажуць, без каментару... Выдумка мяжуе з праўдай. Трэба адзначыць, і ў многіх астатніх казках аўтары трымаюцца гэтай высновы. Задумы казак часцей у іх нараджаюцца ад візуальнасці, ад таго, што бачаць яны ў жыцці. Тут можа быць і сур'ёзнае, і, наадварот, смешнае, камічнае, як у сучаснай казцы Вольгі Лешчанкі "Кефір і Каўбас". Аўтарка падгледзела ў гарадскім двары ля смеццевых кантэйнераў двух катоў — і нарадзілася адпаведная вясёлая з сучаснай мараллю казка. "Міліцыя прыехала хутка. Цёці Полі далі нешта панюхаць. Затым міліцэйскі начальнік праз павелічальнае шкло абследаваў кухню і сказаў:

— Ту толькі каціныя сляды і ніякіх зладзеяў няма.

Саскочылі Каўбас і Кефір з падваконніка і, задаволеныя, пабеглі да сваіх кантэйнераў... Па сакрэце скажу вам, што там зараз працуе бюро дапамогі катам, якіх гаспадары б'юць і выкідваюць на вуліцу або проста так, або за якую шкоду. Катоў на сметніках вельмі шмат, Каўбас і Кефір някепска зарабляюць на сваёй новай працы".

Можна яшчэ прыводзіць прыклады з казак, у якіх нямала пачувальнага, з пэўнымі вывадамі, хоць і схоплена дзіцячым розумам. Яно і натуральна: юным аўтарам хочацца гарманізацыі жыцця, яны ж толькі ўступаюць у яго. І разам з тым радуюцца ўсяму прыгожаму, што акаляе іх. Адным словам, "чорная пралеска", "ружовая раса"... Гэта і ёсць, вобразна кажучы, лейтматыў усёй кнігі "Казкі дзяцей Беларусі".

У заключэнне хочацца сказаць, што ў кнізе змешчаны казкі на беларускай і рускай мовах, і адна з адметнасцей у сярэдзіне зборніка 16 рэпрадукцый малюнкаў саміх дзяцей, узростам ад 6 да 12 гадоў. Іх мастакоўская творчасць у поўным суладдзі з тэкстам кнігі, з казкамі іх жа равеснікаў. Ну а прафесійны мастак Яўген Ларчанка адцяніў на вокладцы і тых, і другіх.

Добра, што такая кніжка выйшла, выйшла ў другі раз і, думаецца, не ў апошні. Ёсць спадзяванне, што лёс яе будзе такі, як і першай. І ў гэтым вялікая заслуга яе ўкладальніка лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра, паэта Міколы Чарняўскага, які нядаўна адзначыў свой 60-гадовы юбілей. Не сумняваюся, што не адзін юны чытач скажа яму "Шчыры дзякуй!" за гэтую кнігу.

**Яўген ХВАЛЕЙ**

---

**УРАЖАННЕ**




Гледзячы на высозны стос кніг, які ляжыць на маім пісьмовым стале, вылучаю ў ім любімую з маленства, выдадзеную ў 1966 годзе аповесць Алены Васілевіч "Расці, Ганька". Нешта ёсць у гэтым творы такое, што не дазваляе забываць яго і праз гады. Магчыма, дабрыня, якая свеціцца ў кожным яго радку... Аповесць "Расці, Ганька" робіць з дзіцяці Чалавека, вучыць яго спачуванню, павазе да іншых, любові да жыцця. Беднасць, нястачы, нарэшце, страта бацькоў — усё гэта адно толькі загартоўвае малую Ганьку, выхоўваючы ў ёй мужнасць і непахіснасць, уменне выстаяць, не зламацца ў складаных абставінах. Я адразу палюбіла Ганьку, пачала ўсім сэрцам перажываць за яе. Ну што ў гэтым творы такога асаблівага? Але немудрагелістыя вясковыя прыгоды гераіні чамусьці бяруць цябе за жывое, і ты — на той час яшчэ малое дзіця, як сама Ганька,

# НА ВЫСПЕ ЛЮДСКАСЦІ

— горка плачаш, калі чытаеш: "Але мацеры на ложку няма... Куды ж гэта яна пайшла? Ганька прыўстае на локці і адразу не можа нічога зразумець. Не можа зразумець, чаму гэта маці перабралася спаць на лаву і чаму, хоць і свеціць сонца, гарыць свечка ў хаце"...

Алене Васілевіч — знакамітай беларускай пісьменніцы, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі — сёлета споўнілася 80 гадоў. Вялікія яна мае творчыя набыткі. Сярод іх — і яе новая кніга прозы "Першая жонка нябожчыка". Калі чытаеш яе, то разумееш, чаму да гэтай аўтаркі прыйшоў і літаратурны, і ўсялякі іншы поспех. Празаік, эсэіст, яна піша крывёй свайго сэрца. Таму творы Алены Васілевіч не пакідаюць абыякавым нікога з тых, хто шмат перажыў і праз многае прайшоў. А пачынаецца новая кніжка пісьменніцы на журботна-трагічнай ноце: памёр чалавек, у хаце стаіць труна, з ім развітваюцца радня і знаёмыя — і ў тым ліку першая жонка нябожчыка... Такі ж тужлівы і часам жалобны настрой напаўняе і іншыя творы. Апісвае аўтарка хваробы, аперацыі, смерць, пакуты, нечыя перажыванні, розныя жыццёвыя трагедыі і неспадзяванкі...

Развод, самагубства, забойства і іншыя не менш жудасныя і страшныя падзеі, якія могуць надарыцца з кожным з нас, паказаны ў "Першай жонцы нябожчыка" — хачу падкрэсліць — не так, як мы прызвычаіліся да іх ставіцца. Тут няма і следу адчаю ці роспачы. Можа, нават наадварот: адмоўнае і чорнае ў інтэрпрэтацыі Алены Васілевіч прымушае нас, чытачоў, убачыць у нашым жыцці станоўчае і светлае...

Што найболей уразіла, дык гэта, відаць, фраза, сказаная пісьменніцай у інтэрв'ю часопісу "Крыніца". Сугучная маім цяперашнім думкам і разважанням: "Ну, а што датычыць творча-сакраментальнага: "Што літаратура для жанчыны і што для літаратуры жанчына?", дык тут я спашлюся лепш за ўсё на аўтарытэт Льва Талстога: *"Мужчинам литература заменяет деторождение, поэтому женщины пишут так мало и так плохо..."* Перακанаўча?.."

Так, сапраўды, са Львом Талстым не паспрачаешся! Але вось што датычыць Алены Васілевіч, дык тое, што піша яна, усё ж **сапраўдная** літаратура. Можа, гэтая жанчына — шчаслівае выключэнне з агульнага правіла?

Западаюць у памяць развагі пісьменніцы пра тое, як у іх вёсцы некалі лічылася: калі дзіця ўдалае, то яно абавязкова ружовае і пульхнае. Алена Васілевіч сумна жартуе: "А мае былі — сухары-зялёнкі..." Дык ці ў гэтым тая "ўдаласць"?.. Колькі гумару мы знойдзем у апісанні таго, як "удалая" кабета не змяшчаецца на сядзенні аўтамашыны! "Няўдалая" пісьменніца — дробненькая, худзенькая — ідзе па роднай вёсцы, быццам яе "трыццаць гадоў не кармілі". Мне ўжо робіцца смешна ад гэтых параўнанняў, а вам?

Справа ў тым, што ўсе творы Алены Васілевіч напісаны вельмі інтэлігентным чалавекам. Тонкім, глыбокім, з арыгінальным цікавым талентам. Як усё ж пранесці гэтую інтэлігентнасць праз недарэчнасці лёсу, як захаваць яе на звілістых дарогах жыцця? Вось што цікавіць, хвалюе, турбуе пісьменніцу. А нашы цяперашнія рэаліі — ці даюць яны каму-небудзь падставы для аптымізму? Трэба быць хіба што поўным дурнем, каб весела смяяцца тут: без горычы, без кропелькі суму... І ў Алены Васілевіч ёсць нейкая затоеная журба. Бо яна ж як бы лірык, як бы рамантык ці сентыменталіст у прозе. Малюнкі, створаныя ёю, заўсёды прасякнуты ціхай сумнаватай іроніяй. Іх нібы асвятляюць промні ці ранішняга, ці вячэрняга сонца. Паўтоны, паўцені, паўштрыхі... Ёсць у гэтым нешта бясконца вабнае, як у беларускай песні, што весяліць нас — і ў той жа час крышачку засмучае. Такі, мабыць, у нас менталітэт. Гэткія мы маем і жыццёвыя рэаліі. Як у апавяданні "Араўкарыя": спачатку гэтае дрэва здавалася герою незвычайна прыгожым, казачным. А праз колькі гадоў, калі ён падвёў да яго сваю новую жонку, тая сказала на бясконца дарагую ягонаму сэрцу араўкарыю толькі адно: "Абскубаная курыца". "Араўкарыя... раптам і яму самому здалася таксама вельмі звычайным дрэвам". Так што любая з'ява мае два бакі, што выдатна адлюстравала і Алена Васілевіч. Яе творы мудрыя, бо яны вучаць нас па-новаму спасцігаць навакольную рэчаіснасць: бачыць у ёй адначасова цемру і святло, брыдкае і цудоўнае, трагічнае і смешнае.

Можа быць, гэта чэхаўскі талент, але ў нашым, беларускім варыянце. Сучасны. Адкрыты ўсяму свету. І гэта — наша Алена Васілевіч.

Уменне бачыць недахопы не азначае немагчымасці браць асалоду ад жыцця. Крытыка таго, што існуе, не з'яўляецца паказчыкам адмоўнага стаўлення да ўсяго наогул. Наяўнасць розуму не выключае здольнасці захапляцца.

Такія думкі выклікаюць у мяне творы Алены Васілевіч. І я не хачу развітвацца з яе кнігамі, не збіраюся вяртацца ў стан *няцямнасці*... Спадзяюся, гэтак адбудзецца з кожным чытачом "Першай жонкі нябожчыка".

*Алена Васілевіч. "Першая жонка нябожчыка". Мн.: "Мастацкая літаратуры", 2002.*

**Святлана ЯВАР**

ЛІМ-ЧАСАПІС

# НА КРЭЎСКІМ МЕРЫДЫЯНЕ

Пошукі сябе ў гэтым разбэрсаным свеце, глыбінных каранёў свайго роду, жыццядайных вытокаў нашага беларускага радаводу ўсё часцей змушаюць нас звяртацца да памятных мясцін беларускай зямлі, да тых вызначальных падзей, што моцай свайго ўплыву змянялі лёсы цэлых рэгіёнаў і народаў, узрушалі еўрапейскую палітыку. Менавіта да такіх мясцін адносіцца не надта прыкметная сёння вёска ў Смаргонскім раёне з гучнай назвай Крэва. Менавіта адной з такіх лёсавызначальных падзей для Вялікага Княства Літоўскага з'явілася Крэўская унія 1385 года, якая паклала пачатак ягонай сумеснай з Каралеўствам Польскім гісторыі. Менавіта такой выбітнай асобай выпала стаць вялікаму князю літоўскаму Ягайлу, які з Крэўскага замка быў запрошаны на каралеўскі пасад у Кракаў.

А былі ж на гэтай зямлі і іншыя знаныя асобы кшталту Міхала Клеафаса Агінскага. Былі і экзатычныя з'явы накшталт вядомай на ўсю Еўропу Смаргонскай мядзведжай акадэміі. Было і шмат-шмат што іншае.

Ці памятаем мы пра тыя падзеі, ці добра разумеем іх сэнс і значэнне ў гісторыі, іхні ўплыў на еўрапейскае палітычнае ўладкаванне? Ці ў мітуслівасці нялітасцівага жыцця не забыліся пра выдатныя постаці з далёкай даўніны, жыцці якіх цесна знітаваны з Крэвам, са Смаргонскім краем?

Усе гэтыя і многія іншыя пытанні і праблемы сталі прадметам шчырага і зацікаўленага абмеркавання ў час нядаўніх сустрэч на крэўскай зямлі пісьменніка Анатоля Бутэвіча, мастака Паўла Татарнікава і дырэктара выдавецтва "Кавалер Паблішэрс" з вучнямі мясцовых школ.

Гэты творчы дэсант выехаў на Смаргоншчыну па запрашэнні дырэктара Смаргонскай гімназіі № 4 Уладзіміра Уладзіміравіча Прыхача. А нагодай паслужыла абмеркаванне кніг з серыі "Сем цудаў Беларусі", якую выпускае выдавецтва "Кавалер". Найперш у гімназіі і адбылася сустрэча, на якой вялася зацікаўленая і шчырая гаворка пра кнігі з гэтай серыі "У гасцях у вечнасці" і "Званы Нямігі", якія належаць пяру Анатоля Бутэвіча. Мастацкія ілюстрацыі да іх таленавіта зрабіў Павел Татарнікаў.

З увагай слухалі гімназісты расказ пра працу над серыяй мастака і дырэктара выдавецтва. Анатоль Бутэвіч пазнаёміў іх з тым, як нараджаліся творчыя задумкі згаданых кніг, як даводзілася шукаць і адбіраць матэрыял, якія цікавыя знаходкі напаткалі падчас гэтай працы. Гаварыў пісьменнік і пра сваё бачанне многіх гістарычных падзей, пра іх значэнне для сённяшніх маладых людзей, якія хочуць стаць сапраўднымі грамадзянамі сваёй краіны. Асаблівы акцэнт зрабіў ён на падзеях і з'явах смаргонскай зямлі, якія ўвайшлі ў створаныя ім кнігі. Падзяліўся А. Бутэвіч і вопытам працы над толькі што закончанай гістарычнай аповесцю "Каралева не здраджвала каралю" — пра каханне 17-гадовай Соф'і Гальшанскай і 70-гадовага Ягайлы, пра падзеі, што адбываліся ў Крэўскім замку.

У размове бралі чынны ўдзел і гімназісты, якія грунтоўна выказваліся па закранутых пытаннях, дэманстравалі сваё зацікаўленае стаўленне да таго, што некалі адбывалася на іхняй бацькаўшчыне. Дырэктар гімназіі У. Прыхач з гонарам паказаў гасцям школьны музей, дасведчана распавядаў пра шматлікія цікавыя экспанаты.

Гэткая ж шчырая сустрэча адбылася і ў Залескай школе, дзе працуе настаўнікам Сяргей Верамейчык — захоплены краязнаўца і апантаны даследчык жыцця і дзейнасці славутага земляка Міхала Клеафаса Агінскага. Ён шмат робіць для выхавання ў вучняў мастацкага густу, далучэння іх да творчасці, да народных традыцый і звычаяў. Створаная ім батлейка вядома не толькі ў Смаргоні. Дарэчы, падчас сустрэчы з мінскімі гасцямі школьнікі яскрава прадэманстравалі сваё музычнае майстэрства.

У час наведвання школ адбылася таксама прэзентацыя толькі што выпушчанай выдавецтвам "Мастацкая літаратура" чарговай кнігі "Эўрыка", у якой змешчаны вялікі гістарычны нарыс Анатоля Бутэвіча "Слава і няслаўе Крэўскага замка" і матэрыял пра Мірскі архітэктурны помнік "Зваблівая маладосць 500-гадовага замка".

Ад імя выдавецтва "Кавалер Паблішэрс" школам перададзены бібліятэчкі літаратуры.

На заканчэнне вандроўкі па смаргонскай зямлі адбылося знаёмства з багацейшымі экспанатамі краязнаўчага музея ў Крэўскай сярэдняй школе. Руплівы даследчык і дасведчаны знаўца гісторыі гэтай зямлі Аляксандр Камінскі захоплена і грунтоўна расказаў пра музейныя зборы, прыадчыніў заслону таямнічасці над тым, што і як адбывалася ў Крэве цягам доўгіх стагоддзяў.

Праведзеныя сустрэчы на крэўскай зямлі, дзе творчы дэсант сапраўды пабываў у гасцях у вечнасці, пераканаўча засведчылі, што кнігі з серыі "Сем цудаў Беларусі" вельмі патрэбныя юным чытачам, усім, хто хоча глыбей ведаць свой край, самога сябе, свой радавод. І добра, што выдавецтва "Кавалер Паблішэрс" мае цвёрды намер працягваць серыю, а мастак Павел Татарнікаў не збіраецца перапыняць творчага супрацоўніцтва з пісьменнікам Анатолем Бутэвічам. Значыць, будуць новыя кнігі па гісторыі нашай Радзімы.

Апантанец КРЭЎСКІ

ПАЭЗІЯ

***Мар'ян Дукса — паэт, для якога тэма чалавека і прыроды — адна з галоўных у творчасці. Піша ён і пра маральна-этычныя праблемы, каханне, шмат месца ў сваёй лірыцы аддае філасофскім развагам. Аўтар зборнікаў "Крокі", "Прыгаршчы суніц", "Твая пара сяўбы" і інш. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова (атрымаў у 1990 годзе за кнігу "Заснежаныя ягады"). Скончыў філфак БДУ, працаваў настаўнікам. "Малая" радзіма Мар'яна Дуксы — Мядзельшчына.***

***Віншуючы паэта з 60-гадовым юбілеем, лімаўцы зычаць яму яшчэ доўга радаваць усіх нас новымі добрымі творамі.***

Мар'ян ДУКСА



## ПРОСЬБА

*Нас аблажы непагодай, як край,*
*нас захацеўшы дажджом апляскі.*
*Неба, нацешся свінцоваю хмарай,*
*потым і сонца да нас прапусці.*

*Вецер, не скідвай*
*людскога гняздоўя,*
*наша цяпло ацані*
*хоць на грош.*
*Доля, ты нас прыгнятай нелюбоўю,*
*але хоць зрэдку ўсміхайся ўсё ж.*

*Радасць стараецца*
*быць неўміручай...*
*Скрухай і сумам душу не губі —*
*свет ненаглядны,*
*штодзённа не мучай.*
*Мучай, але перапынкі рабі.*

●

*На сэрцы вельмі дрогка.*
*А што бяжыш гурбой —*
*ад гэтага не лёгка*
*на фінішнай прамой.*

*Хоць дождж,*
*хоць снег на плечы,*
*язык знямеў і ссох,*
*асуджаны ты бегчы,*
*хоць і не чуеш ног.*

*Твая дарожка гэта ж,*
*і не дапусціш збой.*
*Маршрут ужо не зменіш*
*на фінішнай прамой.*

*Душа ўжо ў вечнасць лучыць —*
*не жыць жа два разы.*
*А Бог табе уручыць*
*належныя прызы.*

*Было замнога браку*
*ў жыцці, грахі былі...*
*Цяпер падоўгу плакаць*
*ужо няма калі.*

●

*Пакіньце мне маю адзіноту,*
*сплецены з веццяа ціхі будан,*
*Баюся я зведаць чарговы падман,*
*найлепш з галавой акунуцца*
*ў самоту.*

*Пакіньце мне маю адзіноту.*
*Я праўду сваю расцугляю туды.*
*Угледжу сябе я ў люстэрку вады —*
*і твару спакойнаму*
*ўсцешуся ўпотай.*

*Пакіньце мне маю адзіноту,*
*якая, як мак, расцвіце ў глушы.*
*Вясенняй мелодыі ўласнай душы*
*не адпавядаюць вашыя ноты.*

*Пакіньце мне маю адзіноту,*
*якая, як радасны мак, расвіце.*
*І ў сэрцы, і ў сэрцы*
*няўзнак прарасце*
*яшчэ раз, яшчэ раз*
*світальная цнота.*

## ВІНО

*Хтось выдумаў цябе, віно,*
*без дапамогі мудрых акадэмій...*
*І ты цяпер, я ведаю адно,*
*найбольшая з заразных эпідэмій,*
*што людства пад сябе*
*грабе, грабе,*
*бярэ без бою слодычнай атакай.*
*Спрабуй засцерагчыся ад цябе!*
*Не знойдзеш ты вакцыны*
*аніякай...*
*Не вораг нам ты, хмельнае віно,*
*хоць полымя тваё*
*і калабродзіць.*
*І праз цябе на свет,*
*як праз акно,*
*душа з глыбіняў*
*напаверх выходзіць.*
*Ёй свеціцца тады лагодны зрок,*
*ёй зззяе твар,*
*як майскае азерца...*
*Віно, ты здольна адамкнуць замок,*
*якім заўсёды закавана сэрца.*

## НАСТАЛЬГІЯ ВІНЫ

*Здаецца б, я цэлую вечнасць*
*цяпер каравуліў твой вечар.*
*Мы б час не адчулі ў гамонцы,*
*пакуль апускалася сонца.*
*Пакуль не прапала праменне,*
*люляў бы тваё я сумленне.*
*Пакуль за акном не сшарэла,*
*як свечачка, любасць гарэла б.*
*Не бачачы сонца і літар,*
*чытаў бы я ўголас малітвы —*
*прасіў бы Бога старанна,*
*каб ты дачакалася ранне...*

*Пакуль апускалася сонца,*
*вышукваў я рыфму ў каморцы —*
*ў дом творчасці,*
*храм вершаплётаў,*
*не раз ад цябе я ўсё лётаў.*
*Чакала ж ты ў час вечаровы*
*не рыфмы, а цёплага слова.*

●

*Час залаты акрылення —*
*ён назаўжды змарнаваны?*
*Страчаныя пакаленні*
*горнуцца ў нішу нірваны.*

*Казкамі іхнія былі*
*стылі —*
*там праўды ні звання.*
*Тыя,*
*з пяску што ляпілі,*
*рухнулі ўсе збудаванні.*

*Позна рабіцца цвярозым,*
*стойкім і ў мудрасці дужым?*
*Вельмі ж атручаны розум,*
*акамянелыя душы.*

*Не пазычаць ім цярпення,*
*смутак і горыч стрываюць...*
*Страчаныя пакаленні*
*за небасхіл адплываюць.*

●

*А ў гэтай хаціне*
*ніхто не жыве,*
*а ў гэтай хаціне*
*ёсць радасці дзве...*
*ёсць сонца —*
*самоты збавенне адно,*
*што стукае раніцай*
*цёпла ў акно.*
*І потым на схіле ружовага дня*
*ёсць радасць —*
*вячэрняй зары цішыня.*
*І цэлую ноч,*
*ад цямна да цямна,*
*на скрыпцы пакінутай*
*грае яна.*
*Як сонцу прыемна*
*з нябёсаў прыйсці*
*у хатку, што скруху*
*сніе ў забыцці.*
*У ёй, што людзей ужо помніць*
*ледзь-ледзь,*
*усё, што астыла,*
*хоць трохі сагрэць.*
*Як соладка-одумна*
*хаце начной,*
*якая абгорнутая цішынёй.*
*І ёй па-сапраўднаму*
*можна спачыць,*
*бо музыка вечнасці*
*ў цішы гучыць.*

●

*Гайдаюся*
*на нітачцы імгнення,*
*баюся абарвацца кожны раз.*
*За мной —*
*ужо ніякага збавення.*
*Наперадзе —*
*не мой уласны час.*
*Там, за спіной,*
*мае былыя церні,*
*патопленыя*
*ў гушчы слотных дзён.*
*Наперадзе —*
*адна сляпая цемра,*
*дзе я сваіх*
*не ўбачу баразён.*
*Мой твар лагодзіць*
*маладое веце,*
*і сонцам неба*
*цешыць пакрысе...*
*Я разумею,*
*што парыўны вецер*
*майго імгнення*
*нітачку нясе.*

*"Бесядзь цячэ ў акіян" — гэта працяг эпічнага цыкла, у які ўваходзяць раманы "Шчыглы", "Паводка сярод зімы", "Дзікая ружа", "Сіняе лета". У першым рамане апісваюцца падзеі 1943—1945 гг., новы твор прысвечаны васьмідзесятым, застойным гадам. Але жыццё не спынялася і тады. Не ведала застою Бесядзь. Як і заўсёды, рака імчала чыстую, крынічную ваду ў далёкі спрадвечны акіян. У гэтым раздзеле сустракаюцца ці не самыя дзейныя персанажы цыкла — былы ўчастковы Бравусаў і былы ўпаўнаважаны па нарыхтоўках Крупадзёраў. Стрэча іхняя сталася трагічнай. Цалкам раман друкуецца ў часопісе "Полымя", № 3.*

*Ганарар прашу пералічыць у фонд будаўніцтва Нацыянальнай бібліятэкі.*

**АЎТАР**

# БЕСЯДЗЬ ЦЯЧЭ Ў АКІЯН

**Леанід ЛЕВАНОВІЧ**



Бравусаў выйшаў на двор. У галаве настойліва білася думка: хто ж намі кіраваў? Падкінуў каню сена, зірнуў на гадзіннік, па звычцы агледзеўся: нідзе нікога.

Увайшоў у хату. Гаспадар сядзеў за сталом, столік быў запоўнены да верху. Бравусаў гэта ўсёк і загадаў сабе: піць толькі для прычэлля, каб яшчэ якую гадзіну пасядзець.

Крупадзёраў наліў леваю рукою, як ён гаварыў, стыканы, але падняць іх не паспелі — ля варот зарыкала карова.

— Пайду заганю Чарнаву. Яна такая лярва. Уцячэ, тады з сабакам не знойдзеш.

Гаспадар цяжка падняўся, патупаў да парога. Бравусаў скарыстаў момант — выліў пад печ гарэлку, наліў сабе вады.

Крупадзёраў неўзабаве вярнуўся. Расчырванелы, скуласты твар ягоны наліўся нездаровай чырванню — мусіць, падняўся ціск. Вочы з чырвонымі павекамі масляна блішчэлі.

— Давай, Усцінавіч, вып'ем, — і кульнуў поўную шклянку.

Бравусаў выпіў да паловы шклянкі, з разлікам, каб хапіла яшчэ на адзін раз, а тады можна і ехаць да Просі.

— А што ты не дапіваеш? Ты ж маладзейшы, здаравейшы... Хаця, можа, і правільна. І я ўжо стаміўся піць, абрыдла жыць... Мусіць, сваю цыстэрну выжлукціў ужо, — памаўчаў, пасмактаў салёны гурок, потым памусоліў бяззубым ротам шматок жоўтага сала. — Які гад еты Арцём. Так рана прыгнаў кароў. Рыкае на ўсю галаву. Галодная. Я ім тожа напасу! Выганю на пару гадзін, ды і д-да-моў, — заікаючыся, лаяў Крупадзёраў суседа Арцёма.

— Ну, а чаму б табе не напасвіць кароў, як след? Паказаць суседзям, як трэба. Не заядайся з людзьмі, — праўдалюбец Бравусаў узяўся павучаць суразмоўніка. — Я такі хвакт табе раскажу. Быў у Хатынічах староста Куцай-Гарнец. Пасля немцаў яго пасадзілі. Таксама дзесятку далі. Вярнуўся. Дык, бывала, едзе па вёсцы, дзяцей насадзіць поўны воз. Цукеркі ім дае. Едзе павольна, каб усе бачылі, які ён добранькі.

— Ты што? Мяне з паліцаем раўняеш? Ты сядзіш у маёй хаце. Маю гарэлку п'еш. Ах ты, тваю маць! — узбурыўся Крупадзёраў.

— Заткніcь ты са сваёй ванючай гарэлкай! Чаго ты раскрычаўся? Я табе хвакт прывёў...

— Ты мяне з паліцаем не раўняй. Я упаўнамочаны Наркамата СССР. А ты — гаўнюк!

— Я капітан міліцыі. Не дазволю злодзеям зневажаць мяне, — падхапіўся Бравусаў.

— Я раённы начальнік... Упаўнамочаны. Не дазволю, каб нейкі шча-н-юю-к здзекаваўся тута, — зароў Крупадзёраў, сціскаючы кулакі. Левая рука Крупадзёрава пацягнулася да нажа, але Бравусаў апярэдзіў, скінуў нож на падлогу, "жалезная" рука тады ўхвапіла яго за штрофлі кіцеля. Бравусаў перахапіў яе, моцна сціснуў, завучаным прыёмам заламаў за спіну, аж нешта крохнула. Крупадзёраў заенчыў ад болю, ірвануўся з усёй сілы, стукнуў участковага нагою ў пах. Той застагнаў ад болю, мёртвай хваткай ухапіў Крупадзёрава за горла...

Яны счапіліся, нібы два павукі ў слоіку. Доўга тузаліся, нарэшце праціўнік участковага, быццам мяшок, асеў на падлогу, захрыпеў, сутаргава сціснуліся і аслаблі рукі, пусціў пад сябе лужу.

— Ах, падонак ванючы... Ты цяперыцька поўнасцю намочаны, — хаўкаючы ротам, як рыбіна на пяску, мармытаў Бравусаў. — Але ж ён канае, хвакцічаскі...

Участковы пазіраў на распластанае даўжэзнае цела і з жахам прыкмячаў, што ягоны хаўруснік па застоллі не дыхае, а п'яныя вочы невідушча глядзяць у закапцелую столь. Бравусаў лінуў са шклянкі рэшту вады ў твар Крупадзёрава, узяў левую руку, тую самую, "жалезную", сціснуў у запясці — пульс не праслухваўся.

"Што ж я нарабіў? Ён жа сканаў..." — хмель імгненна выпарыўся з галавы ўчастковага, думка ліхаманкава працавала: узваліць на воз, прыцемкам завезці і скінуць у Бесядзь. Пачнуць шукаць, як знойдуць... Эксперты ўстановяць, што задушаны... Мацвей Сахута ведае, што я сюды паехаў. Жонка, Прося... Закапаць? Дзе, куды? Зноў шукаць будуць...

У хляве зарыкала карова, Бравусаў аж здрыгануўся, цішком, бы злодзей, вытыркнуўся за вароты. Неба нахмурылася, увачавідкі цямнела. Пачынаўся дробны, халодны дождж. Гэта добра, падумаў ён, меней сведак, меней людзі шастаюць дажджом па вуліцы. Раптам яму так заманулася ўцячы адсюль. Сесці на воз, накрыцца плашчом з галавою, каб твару не было відаць і паімчаць да Просі. Не, да Просі нельга, хутчэй дамоў, каб толькі сцямнела. Карова зноў зарыкала і нібы пугаю сцебанула Бравусава: трэба хутчэй шукаць выйсце! Раптам вернецца ягоная жонка — тады прапаў. Але не, сказаў, што прыедзе праз тры дні, толькі ўчора паехала... А можа, павесіць яго? Запіску пакінуць. Сам сябе... Гэта адзінае выйсце. Пад паветкаю, калі насыпалі бульбу, згледзеў тоўстую вяроўку. Крутнуўся ў хату. З жахам зірнуў на распластанае цела. Крануў за руку — яна была ўжо халодная... Ліхаманкава пачаў шукаць ручку ці аловак. Напісаць сваёю ручкаю не адважыўся: тады яе трэба пакінуць на стале. Знайшоў агрызак хімічнага алоўка, выдраў аркуш з пажаўцелага школьнага сшытка. Хацеў паслініць аловак, але спахапіўся: сліна — ўліка. Памачаў у ваду, буйнымі крывымі літарамі нашкрэбаў: "Прашчай жонка дзеці, унукі, жысць мая абрыла В маёй смерти никога не виниця Я сам сябе даканав. Павел."

Прынёс вяроўку, знайшоў табурэт, намацаў тоўсты цвік на бэльцы. Пакуль ён зрабіў сваю жудасную справу, у хаце ацямнела. Святло ён не ўключаў. Кінуўся прыбіраць лішні посуд: пакінуць адну шклянку, адзін відэлец. Прыкінуў, што ў слоіку замнога гарэлкі, дастаў сваю насоўку, абгарнуў слоік, тады наліў сваю шклянку амаль поўную, прашаптаў: "Даруй, Павел. Я не хацеў. Бог таму сведка. Ты першы пачаў. Нож хацеў схапіць. Каб празяваў, ты б мяне прырэзаў. Стукнуў балюча. Сам вінаваты... Даруй".

Няўмела перахрысціўся — упершыню за дарослае жыццё. Адным духам асушыў шклянку, спаласнуў вадою, паставіў у буфет. Потым задам сунуўся да дзвярэй. У адной руцэ трымаў фуражку, у другой — анучу, якою заціраў свае сляды. "Добра, што на вуліцы дождж", — мільганула ў затуманенай гарэлкаю галаве. Ужо адвязаў каня, тады спахапіўся: бульба стаіць, трэба ўзяць. Мяхі былі вельмі цяжкія. Даўно ведаў, што мех дробнай бульбы нашмат цяжэй, чымся мех буйной, але не думаў, каб настолькі цяжэй. Страх падганяў, прыдаваў сілы. Ускінуў мяхі на воз, накрыўся плашчом, тузануў за лейцы. Застаялы конік ахвотна патрусіў дамоў.

Мокры, як цуцык, адубелы ад халоднага ветру — не сагрэла і "аглаблёвая" шклянка, ён уваліўся ў хату. Тамара глядзела тэлевізар, гукнула з другой хаты:

— Што ты так запазніўся? Цягаешся поначы дажджом.

— А, хай яго ліха. Не мог вырвацца раней. Яму ж там і пагаварыць няма з кім. А ў дарозе гуж лопнуў. Пакуль звязаў... Куды бульбу дзяваць? Намокла яна.

— Можа, у сенцах пастаў. Заўтра пасушым.

Ён выйшаў, але неўзабаве вярнуўся.

— Здаецца, і піў мала. Можа, з'еў нешта? Ён кансерву нейкую паставіў. Баюся, што выташніць. Неяк млосна. — Ён выпіў вады, сеў на табурэт ля парога. — Памажы бульбу згрузіць. Узяўся за мех, дык у спіну стрэльнула.

Тамара неахвотна ўскінула на плечы кухвайку, усунула ногі ў галёшы, наблізілася да яго.

— Фу, чым ад цябе етак пахне? Як з бочкі ванючай. Што ты там піў? І што еў? Не трэба да яго ездзіць. Таварыша знайшоў...

— Ён мяне знайшоў. А не я яго, — у гэтыя словы Бравусаў укладваў свой, аднаму яму вядомы сэнс.

Спарадкавалі бульбу. Тамара зноў села каля тэлевізара. Ён паставіў у пуню каня, кінуў яму сена. У галаве ўвесь час раіліся думкі, а ўвушшу нібы застыла каровіна рыканне. Можа, хто ўжо зайшоў у хату? Але не, святла няма, ніхто не пойдзе. Заўтра знойдуць яго... А што мне будзе? Турмы ён не баяўся. Не шкадаваў Крупадзёрава. Нават мільганула думка: ён адпомсціў упаўнамочанаму за людскія пакуты... І да сябе не было шкадобы. А вось дзяцей шкадаваў. Сыну будзе сорамна. Усё-ткі дырэктар школы...

У роце смажыла. Бравусаў патупаў у прымыльнік. Там была прыхавана пачатая пляшка гарэлкі, прычым не самагонкі, а крамнай. Адшукаў, прагна каўтнуў. Адчуў, як пацяплела ўнутры. Яшчэ каўтнуў, потым яшчэ. Піў, пакуль не асушыў да дна. "Эх, каб цяпер памыцца ў лазні. Змыць з сябе ўвесь бруд..." Але сілы на гэта не было, ды і позні восеньскі вечар на дварэ. У хаце Бравусаў старанна вымыў рукі, умыў твар, нават пачысціў зубы, што рабіў даволі рэдка, і заваліўся спаць.

Усю ноч яму сніліся кашмарныя сны. Прачнуўся з цяжкой галавой. У хаце яшчэ было цёмна. І першая думка: як там? Калі яго знойдуць? Будуць выганяць кароў, ягоная пачне рыкаць яшчэ мацней. Можа, той Арцём, якога Ён з такой злосцю лаяў, і знойдзе... Бравусаў узгадаў, што ноччу яму снілася, быццам за ім ганяўся разлютаваны бык, гучна рыкала карова... Захацелася напіцца вады, ледзьве адарваў галаву ад падушкі, але ўстаць не мог: у спіну стрэльнула, ад болю назад адкінуўся, паспрабаваў павярнуцца — таксама не змог, спіну быццам прыкаваў хто да ложка. Можа, зрушыў спіну, як цягнуў яго, мільганула думка, ці як бульбу грузіў. Але ж ці мала ён перацягаў мяхоў? А можа, прастыў? Дождж, халадэча. Радыкуліт яго асабліва не турбаваў раней. Толькі аднойчы, калі цалюткі дзень зімой вазіў дровы, назаўтра балела спіна. Тамара націрала гарэлкай, а потым ён лашчыў яе. І было ім горача, нават боль у спіне адступаў перад спрадвечнай жарсцю... А тут жа немагчыма павярнуцца. Але не гэты боль турбаваў яго. Радыкуліт пройдзе. Тамара натрэ спіну, ён паляжыць дзень-другі — ачуняе. Праўда, і ў паху баліць, моцна Ён убрыкнуў. Але і гэта пройдзе. А вось калі ўпякуць у цюрагу, як гаварыў Ён, гэта надоўга.

Загаварыла радыё — на кухні яго ніколі не выключалі, адно прыцішалі гук. Пачуў, што паднялася Тамара, пратэпала ў першы пакой. Паклікаў яе:

— Штo-та не магу падняцца. Быццам шворан металічны ў спіне. Ні павярнуцца, ні сагнуцца...

— Ты ноччу трызніў. Нешта гаманіў, крычаў, стагнаў. Дос табе піць. А то кончышся. Ляжаш спаць і не ўстанеш. Можа, давай натру спіну? Ці, можа, грэлку падкласці?

— Добра. Давай грэлку.

Праз нейкі час Тамара прынесла грэлку, сяк-так падсунула пад мужаву паясніцу. Ён адчуў прыемную мяккую цеплыню, сказаў:

— Тамара, ты вось што... Ну, не кажы нікому, што я ездзіў да Крупадзёрава. Пасля чаркі ён прызнаўся, што накраў, хвакцічаскі, бульбу ў калгасе. Я не хацеў браць. Ён кажа: не, ета з майго гарода. А ўчора ты нікому не казала, дзе я? Куды паехаў...

— Ды не. Ніхто да нас не заходзіў. Усё! Болей, каб ты да яго не ездзіў. Ні нагою! Знайшоў друга. Ён смярдзіць, як тхор.

— Добра. Болей не паеду, — ахвотна пагадзіўся Бравусаў. — А радыкуліт... Калі хто спытае, каня шукаў. Прамок. Прастыў.

— Каму якое дзела? Чаго ты так баішся? Як галава? Палягчэла?

— Галава, як на ёй ячмень змалацілі. Нічога, адпусціць. Налі мне грамаў дваццаць. Каб душу прывязаць і галаву палячыць.

Тамара моўчкі пасунулася ў сенцы. А ў галаве Бравусава білася думка не пра выпіўку: значыць, ведаюць толькі Сахута і Прося. Але хто ў іх будзе пытацца? У газеце ж, можа, не напішуць пра Яго? А калі і напішуць, дык няскора.

Пасля чаркі ён супакоіўся, зноў задрамаў.

Амаль тыдзень пракачаўся ў ложку Бравусаў. Радыкуліт памалу адпускаў. Тамара націрала спіну першаком, а ў рот не давала ні кроплі. І ён не настойваў, хоць і вельмі хацелася. А ўваччу стаяла, як выпівае поўную шклянку Крупадзёраў. Ці мог ён падумаць, што гэта апошняя ў жыцці?

Бравусаў усё чакаў, прыслухоўваўся, ці не загудзе каля дома машына. Вядома, якая — міліцэйскі "газік". Але ніхто не паяўляўся. Заходзіў сын, распытаў, што як, расказаў пра школьныя навіны — іншых навінаў у яго не было. Бацька супакоіў яго: чуецца лепш, ужо можа ўстаць, вось-вось пойдзе. Ён гутарыў з сынам седзячы, каб паказаць, што нічога страшнага не адбылося.

Сын доўга не затрымаўся, бо заўтра трэба ехаць у раён на нараду.

З прыхаваным хваляваннем чакаў Бравусаў вяртання сына з раёна. Карцела патэлефанаваць новаму ўчастковаму, але стрымліваў сябе, каб не выклікаць падазрэння, ды неяк раней зрабіў яму заўвагу, той закапыліў губу, надзьмуўся, як сыч, буркнуў:

— Я сам разбяруся. Цяпер не той час. Усё мяняецца.

А сыну пазваніў увечары, не ўтрымаўся. Той ужо быў дома. Распытаў, як прайшла нарада, якія навіны ў райцэнтры. Сын каротка адказаў:

— Нічога асаблівага. Звычайная гаварыльня. І навінаў няма. Як тваё здароўе?

— Ды ўсё, хвакцічаскі, нармальна, — бадзёра адказаў бацька.

Усё і сапраўды "нармальна": прамінула восем дзён, ніхто да Бравусава не прыехаў, пра смерць Крупадзёрава — нідзе ні гуку.

"Паверылі. Закапалі, як сабаку. Хто пра яго будзе пісаць? Каму будуць спачуваць? У яго тут няма нікога. Вось табе і вялікі начальнік. Махляр і злодзей..."

Бравусаў канчаткова супакоіўся. Ноччу прылашчыў Тамару. Дні за тры да гэтага, пасля ейнага расцірання, прызнаўся, што баліць нешта ў паху. "Пакажы, што там? Можа, кілу нажыў?" — рагатнула Тамара. Паказаць ён пасаромеўся, затое ў гэтую ноч даказаў, што не зломак, аддзячыў жонцы за клапатлівае і пяшчотнае расціранне.

Раніцай старанна пагаліўся. Разглядаў сябе ў люстэрка прыдзірліва, быццам шукаў перамены ў сваім абліччы: як ні круці, а ён забойца, хай сабе не зламыснік, ён абараняўся, але ж, хвакцічаскі, спраўдзіў на той свет чалавека. Хай нялюдскага, але ж чалавека, некалі гэткага грознага начальніка... Раптам заўважыў, што скроні яго зусім сівыя, раней сівізна прабівалася зрэдку.

Ну што ж, зіма на парозе, разважаў Бравусаў, вось і прыцерушыла, але яшчэ малады. Усяго пяцьдзесят восем. Мог даўно загнуцца, а я жывы. Мабыць, лёсам наканавана загубіць чалавека. Просю не далі паставіць да сценкі. Рацэева ўзяў на мушку... Апярэдзіў нямецкі снарад. І то сніўся часта з пашкамутанымі вантробамі. А Крупадзёраў і не сніцца. Сам вінаваты. І гарэлка яго ванючая. Жыў, як мех сшыў... Адна Прося падазраваць можа. Сахута, мусіць, яшчэ не ведае, што Крупадзёрава няма. Можа, і не даведаецца. Стары, мала дзе бывае. Трэба з'ездзіць у Хатынічы, пранюхаць. Пагаманіць са сватам. Унука пабачыць. Наконт работы параіцца. І не ў сельсавеце, а дома, за бяседным сталом, пасваяцку. Нам ёсць што ўзгадаць... Работу варта падшукаць. Дома нічога не выседзіш.

І яшчэ мільганула думка: трэба заехаць да Просі, яна, бедная, так чакала яго тады, пэўна, дранікаў напякла. Яму падалося, што чуе пах і смак гарачых Просіных дранікаў са шкваркамі. А калі спытае, чаму не прыехаў, скажу: перапіў, запазніўся, дождж пайшоў. Можна яшчэ нешта прыдумаць. Раптам спахапіўся: Просі трэба засцерагацца — толькі яна можа падазраваць, бо помніць яго раз'ятранага, бязлітаснага, з таго далёкага сорак трэцяга...

Не мог ведаць тады Уладзімір Бравусаў, якія душэўныя пакуты, якая расплата чакаюць яго.

ПРЭМ'ЕРА

**6 і 7 сакавіка на Малой сцэне Купалаўскага тэатра адбылася гучная прэм'ера . Народная артыстка Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Марыя ЗАХАРЭВІЧ паставіла спектакль "Я не пакіну цябе..." па матывах п'есы Майе Саймана "Інструкцыя па выжыванні для старых ледзі", якая на фестывалі ў амерыканскім Луісвілі заняла першае месца.**

# БРАВА, МАРЫЯ І НАТАЛЛЯ!



Хаця п'еса распавядае пра сумны лёс артыстак "сумнага ўзросту", але яе аўтар закранае агульначалавечыя праблемы. Старэць не хочацца нікому, асабліва актрысе. Ёй хочацца не проста выжываць, а жыць годна, прыгожа, змястоўна.

Мая любімая, прыгожая і непаўторная актрыса Марыя Захарэвіч 9 гадоў не была запатрабаванай у новых пастаноўках на роднай купалаўскай сцэне. Не запрашаюць яе ні на радыё, ні на тэлебачанне, у той час, калі студэнты Універсітэта культуры, дзе яна выкладае, абагаўляюць Марыю Георгіеўну. Душа калектыву яна і ў Мінскім абласным драматычным тэатры (у г. Маладзечна). Але ж без новых роляў на роднай купалаўскай сцэне радасці для яе не было. І Марыя Георгіеўна сама ажыццявіла пастаноўку, зрабіла сцэнічную рэдакцыю, забяспечыла пераклад тэксту на беларускую мову, стала рэжысёрам-пастаноўшчыкам і выканаўцай ролі Нэцці.

У п'есе тры дзеючыя асобы. На ролю непасрэднай, наіўнай, вясёлай і эксцэнтрычнай Шпрынцы ў Купалаўскім тэатры актрысы не знайшлося. Марыя Захарэвіч падзялілася неяк сваімі планамі з народнай артысткай Беларусі Наталляй Гайдай. Прымадонна аперэты загарэлася жаданнем сыграць гэтую яркую трагікамічную ролю ў драматычным тэатры. І аказалася бліскучай, непаўторнай партнёркай Марыі Георгіеўны. За тыдзень Наталля Віктараўна, як здольная вучаніца-выдатніца, настолькі добра вывучыла тэкст, што здавалася, усё жыццё працавала на купалаўскай сцэне...

Гераіня Марыі Захарэвіч, Нэцці — немаладая актрыса, якая засталася ўдавой пасля смерці мужа Джэка. Ён раіў ёй не развітвацца са сцэнай, бо гэта дапаможа не адчуваць сябе адзінокай. Яшчэ муж раіў ёй спадзявацца толькі на сябе. І яна, сціснуўшы волю ў кулак, стараецца жыць, застаючыся незалежнай і моцнай. Але ў Нэцці ўзнікаюць праблемы са зрокам, які не ўдаецца вярнуць нават пасля аперацыі. І тут яго вялікасць выпадак зводзіць Нэцці са Шпрынцы. Лёс гэтай жанчыны, якую спачатку ўспрымаеш вясёлай і бесклапотнай, яшчэ больш трагічны. Год таму яна страціла каханага мужа. Дачка канчае самагубствам. І колісь вясёлая, здавалася, нават легкадумная Шпрынцы, якая любіць спяваць, танцаваць, хадзіць на дыскатэкі (Нэцці кажа пра яе: "Калі жыццё лёгкае, дык і думкі лёгкія"), пакутуе ад страты памяці, становіцца пацыенткай клінікі для псіхічна хворых. Трэцяя ж сяброўка Голдзі — аптымістка, актыўная, самадастатковая, — гэтую ролю таксама выконвае Наталля Гайда. Усе тры гераіні — заможныя ледзі. Яны мараць пра падарожжы на Аляску, Гаваі. Але цяжка выжываць і ім, нават нягледзячы на матэрыяльны дастатак. І ўсё ж ніколі не трэба здавацца, лепш узяцца за рукі, "чтоб не прапасть поодиночке" — гэтая думка праходзіць чырвонай ніткай у спектаклі.

"Я цябе не пакіну..." — цудоўная назва. П'еса вучыць дабру, узрушвае душы і маладых і сталых, заклікае ў цяжкую хвіліну падстаўляць адзін аднаму плячо, а не падножку...

Марыя Захарэвіч і Наталля Гайда падарылі гледачам цудоўны спектакль. Актрысы купаюцца ў сваіх ролях, не адпускаючы ні на секунду гледача, які і плача, і смяецца разам з імі. Сцэнаграфія мастака Барыса Герлавана стварае актрысам утульнае асяроддзе, а выдатная харэаграфія Дзмітрыя Якубовіча робіць спектакль пластычным і нават філігранным. Наталля Гайда прафесійна спявае арыю Тоскі з аднайменнай оперы Пучыні, і разам з Марыяй Захарэвіч бліскуча танцуе танга.

На прэм'еры былі студэнты з Беларускай акадэміі мастацтваў, Універсітэта культуры. Адна з іх — пяцікурсніца Марыя Валгіна — прызналася, што такога ўзрушэння, стану катарсісу, калі цябе працінае наскрозь, не адчувала даўно. Калісь гэтак жа ўздзейнічала на яе п'еса "Касцюмер" з Мікалаем Яроменкам-старэйшым. Гэты спектакль трэба глядзець не адзін раз, бо ён ашаламляе.

Будзем спадзявацца, што ў п'есы "Я цябе не пакіну..." будзе вялікае шчаслівае жыццё на вялікай сцэне Купалаўскага тэатра.

**Валянціна СКАРЫНКІНА**

*НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля.*
*Фота Я. КОКТЫША*

ГАСЦЁЎНЯ

**Выдатнаму беларускаму опернаму спеваку і педагогу, прафесару Анатолю ГЕНЕРАЛАВУ споўнілася восемдзесят. Значную частку жыцця — больш за паўстагоддзя побач з ім любая жонка, таленавіты канцэртмайстар Ніна РАЖНОВА. З імі мы сустрэліся ў іх утульнай кватэры на вуліцы Захарава.**

# І Ў ВУЧНЯХ — МАЛАДЗЕЕ



**А. Г.** Мне, як кажуць, Бог падараваў голас. Бацька меў прыгожы барытон, спяваў у царкоўным хоры. З захапленнем слухаў я народныя песні, рамансы, арыі з опер, марыў навучыцца граць на раялі. А калі давялося паслухаць пласцінку з кавацінай Уладзіміра з оперы "Князь Ігар" у выкананні Лемешава, я проста "захварэў на музыку".

**Г. П.** паступіў на вакальны факультэт Маскоўскага інстытута імя Гнесіных у клас Генадзя Адэна. Тут жа працавала канцэртмайстрам прыгожая дзяўчына. І з 1951-га разам.

**Н. Р.** А з 1954-га мы сталі мінчанамі.

**А. Г.** На мой дыпломны канцэрт у Маскву была запрошана мастацкі кіраўнік Беларускай оперы Ларыса Александроўская. Я выконваў арыю Мазепы і пралог з оперы "Паяцы".

**Н. Р.** Ларысе Пампееўне спадабаўся голас маладога спевака. Яна запрасіла яго ў Мінск, у оперны тэатр.

**А. Г.** Александроўская прывезла тады з сабой ноты партыі Апанаса з оперы Яўгена Цікоцкага "Дзяўчына з Палесся". Выконваць на беларускай мове мне было не цяжка, я ж — з Дона.

**Н. Р.** Ужо ў першы год Анатолю давялося выконваць партыю Апанаса на Дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве.

**А. Г.** У Мінску нас вельмі дружалюбна прынялі. Мы атрымалі двухпакаёвую кватэру, у якой жывём па сённяшні дзень. І хаця часам нялёгка падымацца пешкі на пяты паверх, але, ці ж не гэта дапамагло нам дажыць да гэтага ўзросту.



**Н. Р.** Анатоль, працуючы ў тэатры, выкананаў каля сарака рознапланавых партый. Першай была партыя Гразнога ў "Царскай нявесце".

Анатолю ўдавалася самае рознае — і камічны Фігара з "Севільскага", і напоўненыя жарсцямі, перажываннямі вобразы Скарпіа ("Тоска" Д. Пучыні, Рыгалета ...

**А. Г.** Вядома, мне шанцавала з партнёрамі, таленавітымі опернымі спевакамі — Ларысай Александроўскай, Рытай Млодак, Ісідарам Балоцiным, Соф'яй Друкер, Віктарам Кірычэнкам, Ірынай Шыкуновай, Тамарай Шымко і іншымі. Я вельмі ўдзячны лёсу і за сустрэчу з такімі талентамі, як дырыжоры Леў Любімаў, Таццяна Каламійцава, знакаміты оперны рэжысёр Барыс Пакроўскі... Многіх можна ўспомніць.

Цяпер усё, што ўмею, свой багаты досвед стараюся перадаць студэнтам-вакалістам акадэміі музыкі. Выкладаю ўжо 25 гадоў. Магу з гонарам назваць імёны такіх вучняў, як Уладзімір Мароз, Пётр Палішчук, Андрэй Марозаў, Марат Грыгорчык, Алег Гардынец, Алег Кавалеўскі — усе яны лаўрэаты міжнародных конкурсаў. Уладзімір Мароз, напрыклад, з вялікім поспехам выступае на сцэне Марыінскага тэатра ў Пецярбургу.

**Н. Р.** Нямала таленавітых спевакоў і сярод сённяшніх студэнтаў Анатоля...

**А. Г.** Напрыклад, Андрэй Кулінковіч — барытон, Дзмітрый Трафімук — бас, тэнар Міхаіл Пузанаў, лірыка-каларатурнае сапрана — Вераніка Сергяеня...

**А. Г.** Стараюся працаваць з вакалістамі сціпла, ашчадліва, каб мае вучні не падмануліся хуткім лёгкім поспехам.

**Н. Р.** Мне прыемна, што Анатоль Міхайлавіч па сённяшні дзень працуе з захапленнем. Яго творчы сакрэт заключаецца ў тым, што ён — педагог з выключным вакальным слыхам.

**А. Г.** Я чую вакальным слыхам узаемадзеянне апарата дыхання, гартані, насаглоткі. Мая мэта — дамагчыся ў вучня прыгожага гуку, мяккага, звонкага, па магчымасці моцнага. А "доўгажахарства" спевака, як вядома, залежыць і ад школы, і ад рэжыму. Успомніце: славуты Рэйзен выступаў і ў восемдзесят гадоў!

•

Здароўя, творчага даўгалецця хочацца пажадаць Анатолю Міхайлавічу Генералаву ў гэтыя юбілейныя дні і павіншаваць яго з узнагародай — ордэнам Пашаны.

**Вера КРОЗ**

*НА ЗДЫМКАХ: А. ГЕНЕРАЛАЎ і лаўрэат міжнародных конкурсаў М. ГРЫГОРЧЫК; у " Шукальніках жэмчугу".*

ГАСТРОЛІ

# «ШАГАЛ... ШАГАЛ...» У САНКТ-ПЕЦЯРБУРГУ

**Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа толькі што вярнуўся з фестывалю "Сустрэчы ў Расіі", які праходзіў з 14 па 20 сакавіка ў горадзе на Няве на базе тэатральнага фэсту "Балтыйскі дом". Акцёры з Віцебска паказалі свой знакаміты спектакль "Шагал... Шагал..." у рэжысуры В. Баркоўскага. Коласаўскі тэатр быў запрошаны ў якасці ганаровага госця фестывалю. Вельмі цёпла сустракалі беларускі спектакль пiцерцы, нават плакалі...**

**Т. КАТОВІЧ**

***НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля.***



давалася б, дзве сусветныя вайны, эпіцэнтрам якіх быў наш кантынент, мусілі навучыць еўрапейцаў памяркоўнасці, адбіць ахвоту без дай прычыны хапацца за зброю. Але трагедыя Косава ставіць пад сумніў здольнасць людзей рабіць нейкія высновы са сваёй мінуўшчыны, неяк асэнсоўваць уласны досвед.

*Калі два чалавекі не могуць па-людску* паразумецца, за іх вырашае нехта трэці. Сёння ўжо позна высвятляць, ці была ўзважаная палітыка Бялграда да югаслаўскіх грамадзян албанскай нацыянальнасці; ці адэкватнай была рэакцыя албанцаў-касавараў на палітыку Бялграда; ці можна было вырашыць косаўскую праблему без удзелу іншаземных войскаў. Позна, бо сёння Косавам кіруе ваенная адміністрацыя НАТА, край падзе-








1 — Патрыярх Павел; 2, 3, 4 — царква ля Прышціны: уперад... і пасля...

# РУІНЫ — ПОМНІКІ ВАРОЖАСЦІ

лены на "зоны адказнасці". І, адпаведна, усё, што зараз адбываецца ў Косаве, ляжыць на сумленні тых, каго албанцы называюць міратворцамі, а сербы — акупантамі.

Не так даўно водгулле косаўскіх падзей можна было пачуць у Мінску. У час фестывалю праваслаўных песняспеваў, што праходзіў у нашым горадзе, у памяшканні галерэі Еўрапейскага гуманітарнага універсітэталадзілася выстава "Ускрыжаванае Косава". На ёй былі прадстаўленыя фотадакументы, якія сведчаць, што са з'яўленнем у краі міжнародных паліцэйскіх сіл у Косаве не ўсталяваўся мір. На фотаздымках — знішчаныя і апаганеныя праваслаўныя святыні.

Усе дакументальна зафіксаваныя акты вандалізму адбыліся ўжо пасля падзелу Косава на "зоны адказнасці". Кожны фотаздымак пазначаны сцяжком канкрэтнай краіны, якая трымае канкрэтную "зону".

Ляжаць у руінах храмы і адносна "маладыя (пабудаваныя ў XX стагоддзі) і такія, якім па 500—600 год. Сярод страт ёсць шэдэўры сакральнага дойлідства. Па сутнасці, з культурнай гісторыі Еўропы *вырвана вельмі важная* для разумення ўсяго тэксту старонка.

Выклікае вялікую павагу мужнасць, трываласць і прафесіяналізм тых, хто "па свежых слядах" склаў гэты мартыралог. Для такой працы трэба мець моцныя нервы і моцную веру. Хацелася б спадзявацца, што з часам святыні будуць адноўленыя. Што дапаможа сусветная супольнасць. Бо нельга пакідаць на зямлі помнікаў варожасці. Бо, як слушна сказаў калісь беларускі пісьменнік, і як сведчыць уся гісторыя: "Руіны страляюць".

П. В.






5 — мусульманін на хрысціянскіх камянях; 6, 7, 8 — Сербія галосіць па забітых.





# «ЯК ПТУШКА НЯБЕСНАЯ...»

## ДАРОГА ВЯЛА Ў ВІЛЬНЮ

Маскоўскія вуліцы асвятляліся зыркімі рознакаляровымі агнямі. Непрытульна дзьмуў халодны асенні вецер. Імжэў нудны, беспрасветны дождж. Адарваўшыся ад матулі-бярозкі жоўценькі лісток упаў у лужыну. Вечарэла. Быў пачатак лістапада 1937 года. У цесным, але ўтульным пакоі, невысокага росту, атлетычнага целаскладу мужчына, цяжка ўздыхнуў, паправіў свае русыя, крыху кучаравыя валасы і перавёў погляд на незакончаную карціну. Яна свяцілася фарбамі расквітнелай прыроды яго зямлі, яго Беларусі. І міжволі пачалі наплываць успаміны...

Нарадзіўся ў шматдзетнай сялянскай сям'і. Бацька працаваў садоўнікам у мясцовага пана Свентаржэцкага, а маці па гаспадарцы. Работы ёй хапала: накарміць, абмыць, прылашчыць і дагледзець шаснаццаць дзяцей было не так проста. Ды і па гаспадарцы трэба было паспець. З маленства дзеці далучаліся да немудрагелістай, але цяжкой і пачэснай працы селяніна. Прыходзілася рабіць усё, што патрабавалася. Але цяга да прыгожага жыла ў душы Рамана Мацвеевіча Семашкевіча з малых гадоў. У свой час стары віленскі журналіст Янка Багдановіч, які вучыўся з Семашкевічам у беларускай гімназіі, распавёў мне, аўтару гэтых радкоў, адзін цікавы выпадак, пачуты з вуснаў самога мастака.

Гэта было прыблізна ў 1906 годзе ў родным мястэчку Лебедзева. Раману Семашкевічу шэсць годзікаў (дарэчы, зараз дакладна ўстаноўлена, што нарадзіўся ён 1 кастрычніка 1900 года). Раман ходзіць па вялікім і прыгожым панскім садзе, дзе працуе садоўнікам яго бацька, які ласкава ўсміхнуўшыся, кліча яго да яблыні. Хлопчык подбегам падыходзіць. "Бачыш, якая прыгажосць, якое хараство?" — пытаецца бацька і паказвае на галінкі грушы. Як заварожаны ўзіраецца Раман на гэты цуд прыроды. Белыя з ружаватым адценнем пялёсткі, здаецца, хочуць дакрануцца і пагладзіць яго. А па небе плывуць светлыя, малочныя аблокі, і ўсміхаецца сонца. "З таго амаль часу я пачаў маляваць", — прызнаваўся Семашкевіч Янку Багдановічу. Гэтыя словы ўскосна пацвярджае і жонка мастака Надзея Васільева ў артыкуле "Двойчы забіты", які змешчаны ў часопісе "Мастацтва" (№ 1, 1998 г.).

З маленства Раман навучыўся іграць на розных музычных інструментах. Асабліва падабалася мандаліна. Але першым яго захапленнем, сэнсам яго жыцця станавілася мастацтва. Гэта былі яго альфа і амега, яго духоўны пачатак і канец. Набыць фарбы не было за што, дык выціскаў сок з кветак і ім маляваў. Пісаў партрэты знаёмых, сваякоў, сяброў, а з натуры — краявіды і нацюрморты. Кожную вольную хвіліну, якіх бывала не так і багата, ён нешта маляваў, замалёўваў, перамалёўваў. Атрымаўшы пачатковую адукацыю ў родным Лебедзеве, вырашыў вучыцца далей. Балазе і бацькі былі не супраць. Ад сваякоў даведаўся пра адкрыццё беларускай гімназіі ў Вільні, тагачасным цэнтры нацыянальнай культуры. Вырашыў паспытаць шчасця.

У Вільню прыехаў у 1919 годзе. Беларусь была ахоплена полымем грамадзянскай вайны. Часта мяняліся ўлады. Кайзераўцы, легіянеры Пілсудскага, чырвоныя. Здавалася, што суцэльная і беспрасветная ноч апусцілася над роднай зямлёй і яе жыхарамі.

Ну, але як жа сустрэла Вільня Рамана Семашкевіча? Неадназначна. Найперш, здзівіла. Сваім размахам, памерамі, шматтысячным насельніцтвам, вышыннымі дамамі і помнікамі сівой даўніны. Да таго ж на вуліцах было поўна польскіх жаўнераў, якія адчувалі сябе тут гаспадарамі. Вось як апісваў Вільню тае пары Янка Багдановіч у сваёй кнізе "На жыццёвым шляху": "У тым часе ў Вільні ходнікаў яшчэ не было. На вуліцах былі пакладзены цэглы або дошкі, па якіх прыходзілася хадзіць. Электрычнага святла таксама не было, а калі і было, дык вельмі мала. Горад асвятляўся газам... Што датычыцца камунікацый аўтобусаў — нават і мовы не было. Па вуліцах ездзілі дарожнікі-вознікі, а іх было ў той час вельмі многа". З цяжкасцю адшукаў Раман Семашкевіч славутыя Базылянскія муры, дзе размяшчалася беларуская гімназія. Падаў заяву на імя дырэктара і пачаў рыхтавацца да экзаменаў. Прыйшлося і пахвалявацца. А раптам не паступіць? Але ўсё абышлося найлепшым чынам. Экзамены былі паспяхова здадзены, і вось ён вучань трэцяга класа Віленскай беларускай гімназіі. Жыць давялося ў Беларускім прытулку для сірот і малазабяспечаных дзяцей, які заснаваў ксёндз Адам Станкевіч.

У той час грамадскае і культурнае жыццё ў гімназіі віравала. Моладзь ставіла спектаклі, наладжвала святочныя імпрэзы, прысвечаныя славутым нацыянальным дзеячам і гістарычным падзеям. Урачыста адзначаліся чарговыя ўгодкі абвяшчэння незалежнасці Беларусі. Вучні выдавалі рукапісныя газеты і часопісы, сярод якіх найбольшай папулярнасцю карысталіся "Крапіва", "Муха", "Камар", "Усход", "Рэха" ды іншыя. Іх рэдактарамі былі лідэры вучнёўскай моладзі В.Янчуковіч, Я.Урбановіч, А.Салагуб. З першых дзён знаходжання ў гімназіі за Раманам замацавалася пашанотная слава сур'ёзнага чалавека і перспектыўнага мастака. І таму ўсё мастацкае афармленне гімназійных "перыядычных" выданняў лягло на яго неакрэплыя плечы. Безумоўна, Раман адчуваў, што бракуе майстэрства, ведаў, але з усіх сіл стараўся. Што праўда, дапамагалі іншыя. Прыкладам, той жа Васіль Сідаровіч, які паходзіў з вёскі Сівіцы, што на Смаргоншчыне. Таленавіты хлопец, цікавы мастак, ён у будучым раздзяліў незайздросны лёс са сваім крыху старэйшым таварышам.

За ўпартай вучобай, актыўнай грамадскай працай імклівай птушкай праляцеў час. Ішлі дні, ляцелі тыдні і месяцы, праходзілі гады. Непрыкметна сыходзіла завейная і ганарыстая зіма, за ёй спяшалася галасістая і далікатная вясна, раптоўна з'яўлялася сонечна-вясёлкавае лета, ішла сумная і велічна-трагічная восень. Пазней усё паўтаралася спачатку, як бясконцы калаўрот чалавечага жыцця. Тым часам Раман Семашкевіч сталеў. Сталеў не толькі гадамі, але і думкамі, жаданнямі, майстэрствам. Рабіўся асобай.

У лютым 1923 года пры Віленскай беларускай гімназіі пачаў выходзіць маладзёжны часопіс "Рунь". Ён быў невялікі па аб'ёме, налічваў усяго 38-40 старонак друку ды выдаваўся на гектографе. А сваім зместам нічым не адрозніваўся ад аналагічных школьных выданняў. Вершы і апавяданні гімназістаў, артыкулы пра школьнае жыццё, беларуская народная творчасць. Рэдактарам гэтага выдання быў зямляк Рамана Семашкевіча, выдатны паэт Алесь Салагуб, які паходзіў з вёскі Зарудзічы Смаргонскага раёна. Землякі, аднадумцы, мо нават сябры, яны хутка знайшлі агульную мову. Недзе з трэцяга нумара рэдактар прапанаваў Семашкевічу аздобіць часопіс паводле свайго густу і разумення. І Раман не адмовіўся.

Вонкава глядзіцца той нумар часопіса вельмі прыстойна. Назва выдання выдзелена лаканічным прыгожым шрыфтам на фоне беларускага краявіду з дрэвамі. Старонкі часопіса ўпрыгожаны застаўкамі і канцоўкамі, што стварае пачуццё цэльнасці і гарманічнага суладдзя. Часта малюнкі з'яўляюцца ілюстрацыямі да твораў аўтараў, а часам носяць самастойны характар. Так, на старонках 20-21 выдання змешчаны партрэты Антона Трэпкі і Янкі Катовіча. Гэта былі заслужаныя людзі на ніве беларускага адраджэння. Напрыклад, А.Трэпка ў той час працаваў выкладчыкам фізікі у Віленскай беларускай гімназіі. Строгі, педантычны, нават, крыху сухаваты (такім мы яго бачым на партрэце), тым не менш, быў вельмі паважаны сярод гімназістаў. Яго пяру належаць два падручнікі па гэтым прадмеце: "Фізіка. Механіка і цеплыня" і "Фізіка. Акустыка і оптыка" (Вільня, 1922, 1924 г.г.), а таксама падручнік па аналітычнай геаметрыі, які выйшаў у 1927 годзе ў Вільні. На працягу доўгага часу Антон Трэпка быў сябрам Беларускага навуковага таварыства і Беларускага выдавецкага таварыства. Ну, а Янка Катовіч выкладаў батаніку ў Віленскай беларускай гімназіі. (Паводле ўспамінаў гшмназістаў быў добрым і сардэчным чалавекам). У прынцыпе, іх партрэты атрымаліся. Акрамя знешняга падабенства, што вельмі важна для работ рэалістычнай школы, мастаку ўдалося пранікнуць і ў іх унутраны свет, паказаць іх інтэлігентнасць, высакароднасць, чалавечнасць. Хоць, праўда, і адчуваецца яшчэ пэўная наіўнасць у малюнку ды і ў кампазіцыі. Але першы крок на ніве служэння сапраўднаму мастацтву быў зроблены, і зроблены ўдала. Мастака заўважыла шырэйшае беларускае грамадзянства і па магчымасці стала падтрымліваць.

А сам Раман Семашкевіч спяшаўся жыць. У яго ніколі не было вольнага часу, вольнай хвілінкі. Стараўся прымаць актыўны ўдзел у беларускім грамадскім жыцці, добра вучыцца і бясконца маляваць. Яго як бы распірала ад неўтаймоўных вобразаў. Позна кладўся спаць і рана ўставаў. Безупынку маляваў гімназійных сяброў, любімых выкладчыкаў, беларускіх грамадскіх дзеячаў, кварталы старой, мудрай Вільні, краявіды і нацюрморты. Па словах Янкі Багдановіча "Семашкевіч не толькі маляваў на палатне, але займаўся і скульптурай". Аднойчы з гліны зляпіў свой партрэт, дык гімназісты (вось жулікі!) прыляпілі рогі і назвалі "бараном". Неяк пры нагодзе на сценах прытулковай спальні напісаў вялікую алегарычна-сімвалічную карціну "Распяцце Хрыста на крыжы". З тае пары гімназісты перад ёй заўсёды раніцай і вечарам маліліся. Па ўспамінах сяброў быў незвычайна працавіты, ніколі часу не марнаваў, а прыйшоўшы з заняткаў, адразу браўся за сваю працу: маляваў, ляпіў... Адным словам, жыў для мастацтва і мастацтвам. Зараз проста ўражвае, адкуль бралася энергія ў гэтага простага адкрытага хлопца з невялікага заходнебеларускага мястэчка.



Недзе з 1924 года Раман Семашкевіч пачаў наведваць мастацкую студыю Язэпа Драздовіча. І вось тут яму пашанцавала. Ён знайшоў тое, што шукаў. У першую чаргу, аднадумцаў. Так, у асобе Язэпа Драздовіча старэйшага сябра, мудрага дарадцу і апантанага мастака, які як і Семашкевіч жыў мастацтвам і стараўся быць карысным для свайго народа. У той час імя Язэпа Драздовіча грымела: жывапісец, графік, скульптар, пісьменнік, мовазнаўца, астраном... І ўсюды аўтарытэтны, паважаны, непахісны. Ён і студыю тую заснаваў з адзінаю думкаю-754: збіраць і выхоўваць нацыянальныя мастакоўскія сілы. Там Семашкевіч знайшоў і сяброў. Акрамя ўжо вядомага Васіля Сідаровіча займаліся ў студыі ціхі і непрыкметны Мікола Васілеўскі, непасрэдны Янка Хвораст, задуменны Уладзімір Шышко, апантаны Янка Шырма, інтэлігентны Янка Доўнар ды іншыя. Праўда, правучыўся Раман Семашкевіч там нядоўга. Недзе каля года. Цягнула вучыцца далей, што ва ўмовах тагачаснай Польшчы было нерэальна. Таму і вырашыў падацца ў Савецкі Саюз, дзе "будуецца беларускі Дом і ўсім — бясплатнае навучанне".

## З ВЕРАЙ У АБЯЦАНЫ РАЙ

Невядома, калі, цёмнай зімовай ноччу ці сцюдзёным вясеннім ранкам, перайшоў ён польска-савецкую мяжу, але ўжо ў 1925 годзе быў Раман Семашкевіч у савецкім Мінску. З ягонай лёгкай рукі ўслед за ім падаліся ў БССР мастакі Мікола Васілеўскі, Васіль Сідаровіч, а крыху пазней і паэт Алесь Салагуб — сябры па гімназіі і беларускай культуры. Ехалі, каб вучыцца...

У Мінску Раман Семашкевіч доўга не затрымаўся. Яму карціла вучыцца далей, а навучальнай мастацкай установы ў сталіцы не было. Давялося ехаць у Віцебск.

У тыя гады Віцебск быў своеасаблівым заканадаўцам мастацкіх мод. Яшчэ не паспелі астыць на яго брукаваных маставых сляды вялікага Марка Шагала, славутых Казіміра Малевіча і Мсціслава Дабужынскага. Яшчэ скрозь і ўсюды адчувалася іх магічная прысутнасць і геніяльная сіла. І таму невыпадкова, што якраз тут, у гэтым славутым горадзе, у 1923 годзе быў адчынены Віцебскі мастацкі тэхнікум — першая навучальная ўстанова такога тыпу на тэрыторыі БССР. Кіраўніцтва тэхнікумам ажыццяўлялася Народным камісарыятам асветы, а першым ягоным дырэктарам быў мастак М.Керзін. Выкладчыкамі працавалі ў асноўным мастакі рэалістычнай школы. Сярод іх Валянцін Волкаў, Міхась Эндэ, Мікола Міхалап, Іван Ахрэмчык ды іншыя. У тэхнікуме вывучалі жывапіс, малюнак, скульптуру, пластычную анатомію, гісторыю літаратуры, гісторыю мастацтва (апошнія дзве дысцыпліны выкладалі выдатныя навукоўцы Мікола Каспяровіч і Пятро Даркевіч), перспектыву, фізіку, хімію, ды іншыя прадметы. А з 25-га года ў тэхнікуме пачалі працаваць графічная, ганчарна-керамічная і дэкарацыйная майстэрні.

У тэхнікум Раман Семашкевіч паступіў у тым жа 1925 годзе на скульптурнае аддзяленне. Быў вельмі задаволены. А як жа, ён вучыцца! А тут і магчымасць надарылася, каб паказаць свае работы шырокаму гледачу. Адчынялася першая Усебеларуская мастацкая выстава, якая прысвячалася дзвюм вялікім падзеям — 20-годдзю першай рускай рэвалюцыі і 400-годдзю беларускага кнігадрукавання. У ёй удзельнічала 85 беларускіх жывапісцаў, скульптараў і графікаў. Праўда, не абышлося і без лыжкі дзёгцю. Партыя "прапаноўвала" для распрацоўкі 14 тэм з гісторыі рэвалюцыйнай барацьбы беларускага і рускага народаў: "Паўстанне пад кіраўніцтвам К.Каліноўскага", "Барацьба за савецкую ўладу ў гады грамадзянскай вайны", "Вызваленне Беларусі ад акупантаў", "Братэрскае адзінства народаў СССР", "Барацьба з міжнародным капіталам" ды іншыя. Тэмы самі па сабе былі не самыя горшыя, але не падабалася Раману Семашкевічу тое, што душылася ініцыятыва, гвалтам навязвалася чужая думка, ды яшчэ ў прымусовым парадку. Але работы для выставы даў дзве жывапісныя і адну скульптурную. Найбольш удалымі атрымаліся жывапісныя партрэты Антона Грыневіча і

(Пачатак. Заканчэнне на стар. 14)

## З ЛІМАЎСКАЙ КАГОРТЫ

**Шмат гадоў аддаў працы ў рэдакцыі нашага штотыднёвіка вядомы беларускі пісьменнік Уладзімір Мехаў (Няхамкін) — празаік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Сёлета 25 сакавіка ён адсвяткаваў свой 75-гадовы юбілей. У. Мехаў — аўтар некалькіх кніг прозы, кінасцэнарыяў дакументальных фільмаў. Выступае ў друку з артыкуламі і рэцэнзіямі. Піша п'есы. Многія творы шаноўнага Уладзіміра Львовіча перакладзены на рускую мову.**

**Закончыў У. Мехаў журфак БДУ, працаваў у газеце "Чырвоная змена", быў рэдактарам на Беларускім радыё. Выдаў кнігі прозы "Сцяг над рэйкомам", "Апошняя яўка", "Помнік герою", "Станцыя паблізу Тамбова", "Добры вечар, камбат", "Слухаецца справа аб замаху", "Старадаўняя гравюра" і інш.**

**Віншуючы пісьменніка з 75-годдзем, рэдакцыя штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" зычыць яму натхнення і поспехаў у творчасці.**

**С. Я.**

## ЧАЛАВЕК, ПРЫРОДА, КУЛЬТУРА І ІХ ГАРМОНІЯ

**25 сакавіка ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры прайшла міжнародная навуковая канферэнцыя "Прырода, чалавек, культура: праблемы гармоніі". У ёй удзельнічалі вучоныя з розных гарадоў Беларусі і краін свету. На канферэнцыі разглядаліся праблемы ўзаемадзеяння прыроды, грамадства і культуры, актуальныя пытанні развіцця культуралогіі, шматстайныя аспекты экалагічнай свядомасці чалавецтва ў сучасны перыяд яго вытворчай дзейнасці і інш. Выступоўцы адзначалі, што экалагічная культура ўяўляе сутнасную каштоўнасць сучаснага чалавека. Хрысціянства заклікана адыграць вельмі важную ролю ў пераадоленні экалагічнага крызісу апошніх гадоў. Дзеля таго, каб выжыць, людзі мусяць гарманізаваць паняцці прыроды і культуры, звязаць іх з духоўным прагрэсам. Удзельнікаў канферэнцыі вітала рэктар універсітэта культуры, прафесар, член Савета Рэспублікі Я. Грыгаровіч. Перад навукоўцамі выступіў фальклорны гурт "Грамніцы". Канферэнцыя праходзіла ў духу ўзаемаразумення і супрацоўніцтва яе ўдзельнікаў, значную частку якіх склала моладзь.**

**С. Я.**

## ЯШЧЭ АДЗІН ЛАЎРЭАТ!

**Тыя, хто выпісвае і чытае "Вожык", ведаюць, што пачынаючы з 2001 года рэдакцыя часопіса заснавала штогадовую літаратурную прэмію імя Кандрата Крапівы — першага галоўнага рэдактара часопіса "Вожык". Лаўрэата прэміі па выніках года вызначае рэдакцыйная калегія. Прысуджаецца прэмія за выдатныя сатырычна-гумарыстычныя творы, надрукаваныя ў "Вожыку". А 5 сакавіка, у дзень нараджэння Кандрата Крапівы, абвяшчаецца лаўрэат прэміі.**

**Першым лаўрэатам, за 2001 год, быў паэт-сатырык Павел Саковіч. Лаўрэатам за 2002 год стаў паэт Міхась Міранові́ч.**

**Пачынаючы з 2003 года, рэдкалегія вырашыла прысуджаць прэмію імя Кандрата Крапівы не толькі празаікам і паэтам, але і мастакам-карыкатурыстам.**

**Уладзісь ЦВЯТКОЎ**

# «ЯК ПТУШКА НЯБЕСНАЯ...»

**(Заканчэнне.Пачатак на стар. 13)**

рабфакаўца. Што датычыцца скульптурнай работы "Камсамолка", то яна не выходзіла за рамкі "вучэбнага эцюда і першых, яшчэ няўпэўненых, спроб".

Менавіта ў тэхнікуме Раман Семашкевіч стаў ініцыятарам стварэння секцыі пад назвай "Маладняк", якая вывучала народны быт жыхароў Віцебшчыны, замалёўвала выдатныя помнікі архітэктуры, адметныя ўзоры нацыянальных строяў, прылады штодзённай працы насельнікаў паўночнай Беларусі. Сябраваў з Заірам Азгурам і Андрэем Бембелем, з вядомым краязнаўцам Міколам Касціяровічам, які стаў для яго прыкладам шчырага служэння роднай Беларусі.

А жыць у тэхнікуме было няпроста. Не хапала прадуктаў харчавання, адзення, мастакоўскіх прылад працы. Але на такія "дробязі" стараўся не звяртаць увагі. Галоўнае і адзінае, што для яго было важным, дык гэта магчымасць пісаць. Пісаць заўсёды і ўсюды, у невераготнай цеснаце і тлуме, холадзе і голадзе. І няважна, што чаравік для трываласці перавязаны дротам, і можа праз секунду з яго вылезці палец, галоўнае — пісаць, пісаць, пісаць. Ён быў проста апантаны мастацтвам. У сваіх успамінах жонка мастака пісала: "Жыў Семашкевіч як птушка нябесная. Не ведаючы, што будзе заўтра есці, піць, у што апранацца".

## САМОТНАЕ РЭХА РАССТАННЯ

Віцебскі мастацкі тэхнікум скончыў у 1927 годзе і як адзін з лепшых вучняў быў накіраваны для далейшай вучобы ва Усерасійскі мастацка-тэхнічны інстытут (ВХУТЕИН), які знаходзіўся ў Маскве. Там быў залічаны на жывапіснае аддзяленне, дзе выкладалі такія вядомыя расійскія мастакі, як Кардоўскі, Герасімаў, Дрэвін ды іншыя. Прайшло не вельмі багата часу, як пра Рамана Семашкевіча загаварылі. У першую чаргу маскоўская мастацкая эліта. Так, напрыклад, мастак М.Віцінг параўноўваў жывапісныя працы Семашкевіча з сімфоніямі Вагнера. Славутых і вельмі папулярных у той час Кукрыніксаў здзіўляла ў ягонай творчасці "вастрыня выканання". А выдатны мастацкі крытык, чалавек тонкага густу, цудоўны знаўца старажытнага і тагачаснага расійскага і сусветнага мастацтваў Сяргей Ромаў увогуле называў Рамана Семашкевіча геніяльным мастаком. Паміж іншым, апошні і пазнаёміў у 1930 годзе Рамана Семашкевіча з Надзеяй Васільевай, якая ў будучым стала яго жонкай і верным спадарожнікам жыцця. Якраз з яе ўспамінаў мы і ведаем найбольш поўна пра маскоўскі перыяд яго жыцця. А было яно вельмі неспакойнае. Бясконцыя выставы, сярод якіх толькі шэсць персанальных. Удзел у мастацкай групе "13". Вандроўкі па неабсяжных абшарах Савецкага Саюза. А што тычыцца працаздольнасці мастака, то тут можна толькі здзіўляцца. Сотні жывапісных і графічных работ, за якія моцна не трымаўся, а дарыў не шкадуючы, пры гэтым "зведваў вялікае задавальненне і радасць". Працаваў так, быццам прадчуваў свой хуткі канец. Не звяртаў аніякай увагі на быт. Няважна, што гэта была перанаселеная камунальная кватэра, галоўнае, каб было месца, дзе паставіць мальберт, і можна маляваць. І яшчэ. Стараўся заўсёды заставацца мужным, моцным і надзейным.

Праўда, была ў Рамана Семашкевіча адна слабасць, якую ён аніяк не мог перамагчы. Ды й не стараўся. Гэта бясконцая і шчырая любоў да сваёй Беларусі. Нават знаходзячыся ў Грузіі, ён, замест таго, каб маляваць прыгажосць паўднёвай раскошы, па словах жонкі, пісаў пераважна беларускія бярозкі. Неаднойчы ўдзельнічаў ва Усебеларускіх мастацкіх выставах. Так, некалькі яго работ было выстаўлена ў Мінску ў 1929 годзе, а летам 1932 года персанальныя выставы мастака прайшлі ў Петрыкаве, Мазыры, Мінску. Ён стварыў шэраг партрэтаў вядомых беларускіх пісьменнікаў, сярод якіх былі Міхась Лынькоў, Андрэй Александровіч, Янка Купала, Якуб Колас, Валянцін Таўлай, Антон Грыневіч ды іншыя.Напісаў групавы партрэт кіраўнікоў урада і Саюза пісьменнікаў БССР, дзе можна пабачыць постаці Мікалая Галадзеда, Міколы Гікалы і Андрэя Александровіча. На жаль, захаваўся толькі партрэт Валянціна Таўлая, які знаходзіцца ў Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі. У ім якраз і праявіліся каштоўныя рысы мастака: эмацыйнасць, вялікая тэмпераментнасць пісьма, здольнасць пранікнуць ва ўнутраны свет чалавека. Партрэт напісаны проста, пластычна выразна і незвычайнай колеравай насычанасцю. Пра выставы мастака пісаў і беларускі перыядычны друк, адзначаючы яго цудоўны дар каларыста і вельмі выразную экспрэсіўную манеру. У прыватнасці, газета "Літаратура і мастацтва" у № 22 за 1932 г. змясціла палітычна выверaны, па-сяброўску адкрыты, але шмат у чым спрэчна палемічны артыкул Алеся Салагуба, як водгук на персанальную выставу мастака, што прайшла перад гэтым у Мінску. Пачынаецца ён як і большасць тагачасных літаратурных, навуковых, і мастацтвазнаўчых прац з дыфірамбнага хваласпеву і алілуйнага ўхвалення кампартыі, дыктатуры пралетарыяту, іншых замшэлых ідэалагічных рэквізітаў, паўтарэння вядомага камуністычнага тэзіса аб сацыялістычнай па змесце і нацыянальнай па форме культуры народаў СССР. Праўда, аддаўшы належнае ідэалагічнаму шаблону і трафарэту, Алесь Салагуб імкнецца (наколькі дазвалялі мастацкі густ і эрудыцыя) дэталёва разабрацца з такой з'явай беларускай культуры як творчасць Рамана Семашкевіча. І пры ўсёй спрэчнасці думак і высноў шмат чаго дасягнуў у гэтым напрамку. Прыкладам, яму ўдалося даволі дакладна вызначыць мастацкі кірунак творцы, даць методыка-стылёвую характарыстыку яго працам, адзначыць рэалістычны пачатак з моцнымі элементамі імпрэсіянізму і нават прымітывізму. Адно было дрэнна, што аўтар артыкула часта падмяняў паняцці, калі на змену скрупулёзнаму мастацтвазнаўчаму аналізу прыходзіў спрошчаны, вульгарна-ідэалагізаваны штамп, а іншым разам, нават палітычнае абвінавачванне, што для тагачаснай рэчаіснасці з'яўлялася не абы-якім грахом.

Тым часам сам Раман Семашкевіч карыстаўся вялікім аўтарытэтам і павагай у беларускім інтэлектуальным асяроддзі. Яго любілі Янка Купала і Якуб Колас. Бываючы ў Мінску, ён заўсёды спыняўся ў гасцінных хатах нашых народных песняроў. З ім сябравалі, падтрымлівалі добрыя таварыскія адносіны выдатныя беларускія пісьменнікі Алесь Салагуб, Валянцін Таўлай, Уладзімір Дубоўка, Лукаш Калюга. Франц Гінтаўт, стары беларускі журналіст, у сваіх успамінах так апісваў жыллёвы пакой апошняга: "Кожнаму госцю ўтульнага невялічкага пакойчыка Л.Калюгі запаміналася кніжная паліца на ўсю сцяну, застаўленая цікавымі выданнямі, аўтараў нашай і замежнай літаратуры, а таксама карціна таленавітага мастака Р.Семашкевіча — "Раніца юнацтва". Зіхаценне ружовых і васільковых колераў выказвала летуценні прыгожай дзяўчыны-камсамолкі з блакітнымі вачыма, з закладзенымі за галаву рукамі на фоне неба, калі сонца выплывае на ўскрай зямлі, праменіцца і гуляе. Гэтую карціну мастак (выгнаннік з Заходняй Беларусі) падарыў Лукашу ў знак знаёмства, калі той наведаў яго першую выстаўку ў Мінску". Толькі лёс той карціны мастака склаўся незайздросна. Рэч у тым, што ў 1933 г. Лукаш Калюга быў абвінавачаны ў нацдэмаўскай дзейнасці, арыштаваны, маёмасць канфіскавана, а яго самога выслалі на 5 гадоў у г.Ірбіт. Пры арышце, напэўна, была забрана і карціна мастака. Які яе далейшы лёс — цяжка і прагназаваць. Магчыма яе знішчылі ці спалілі дзе-небудзь на турэмным панадворку, як часта здаралася ў тыя гады з кнігамі і творамі мастацтва рэпрэсаваных аўтараў, а магчыма, замаляваўшы прозвішча мастака, павесіў у сваім кабінеце якісьці вышэйшы кэвэдэшны чын. Ды і ўвогуле, на вялікі жаль, лес амаль усёй творчай спадчыны мастака да трагічнага жахлівы. Прынамсі, да гэтага часу невядома месцазнаходжанне больш 300 сканфіскаваных ягоных прац. Дзе яны? Што з імі? Хто ведае?



Партрэт жонкі



Мой завулак. 1930 год

Тут будзе дарэчы сказаць, што Раман Семашкевіч на працягу ўсяго свайго свядомага жыцця стараўся падтрымліваць кантакты з Радзімай, беларускай інтэлігенцыяй. А калі ў 1933 годзе ў Маскву прыехаў палітэмігрант, лідэр стотысячнай Грамады ў Заходняй Беларусі Браніслаў Тарашкевіч, то Раман меў з ім добрыя, шчырыя чалавечыя стасункі. Часта сустракаліся, гаманілі, абмяркоўвалі надзённыя беларускія праблемы. Хоць добра ведаў, што на афіцыйным узроўні такія сустрэчы не віталіся. Мусіць, выкажу крамольную думку, калі скажу, што і загубілі Рамана Семашкевіча толькі таму, што быў беларускім нацыянальным мастаком "поўны, як мае быць". Ды і па іншых параметрах падыходзіў да знішчэння. Па-першае, не адмаўляўся ад сумнеўных кантактаў з недабітымі беларускімі нацдэмамі, па-другое, не баяўся, хоць і паходзіў з Заходняй Беларусі ды быў сынам панскага садоўніка, а па-трэцяе, неяк не ўпісваўся ў традыцыю тагачаснага савецкага мастацтва. Незадоўга да арышту наведаў Раман Семашкевіч Лепельшчыну. Цягнула дадому, ой як цягнула! А над яго галавой згушчаліся хмары...

Была глыбокая лістападаўская ноч. Дождж не пераставаў. Здавалася, што халодны ўсходні вецер хоча ўварвацца ва ўтульны і цёплы пакой. Мастак адклаў пэндзаль і пагладзеў на толькі што завершаную работу. На палатне панавала бязмежнае суладдзе. Вялікі сад, перапоўнены колерамі вясновых яблыняў і груш, звонам гудучых пчол, і сярод гэтай прыгажосці маленькі хлопчык з шырока расплюшчанымі вачыма. Здаецца, яшчэ хвіліна, і ён паляціць... У гэты момант у дзверы пастукалі. Пастукалі гучна, патрабавальна. Праз нейкую хвіліну стук паўтарыўся. І ўжо не стукалі, а нахабна барабанілі. Раман Семашкевіч падняўся, абняў пабялелую жонку, міла ёй усміхнуўся і спакойна падышоў да дзвярэй...

Расстралялі Рамана Мацвеевіча Семашкевіча перад самым Новым годам, завейным снежнем 1937 года.

**Міхась КАЗЛОЎСКІ**

# НА ХВАЛЯХ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ

**ПЕРШЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫ КАНАЛ**

Як відаць, заўважылі радыёслухачы, значна больш дынамічным і цікавым стаў "Літаратурны праспект", які вядзе паэт Алесь Бадак. Цікавыя рэпартажы маладой журналісткі Вольгі Сямашкі, разнастайная інфармацыя вяртаюць слухачоў да бягучых падзей літаратурнага жыцця прайшоўшага тыдня. Дапаўняюць інфармацыйную прастору развагі вядучага пра прачытанае, зварот да нягучных дат і рубрыка "Вольны палёт" — пра цікавыя факты з жыцця класікаў літаратуры. "Літаратурны праспект" як заўсёды слухайце ў суботу, 12 красавіка, у 10.45.

Новай кніжцы перакладаў Валерыя Стралко будзе прысвечана аўтарская праграма Навума Гальпяровіча "Брама". Валерый Васільевіч робіць надзвычай вялікую работу па ўдасканальванні беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязяў, пра што і пойдзе размова ў перадачы. Нагадаем, што "Брама" будзе гучаць у аўторак, 8 красавіка, у 22.30.

У гэты ж час у сераду ў эфіры — "Авансцэна" С. Шалімы, у чацвер — "Палітра" Г. Шаблінскай, у пятніцу — "Сентыментальнае паляванне" І. Шауляковай.

Штодня пасля паўночы — "Кароткія гісторыі", а ў суботу слухачоў чакае сустрэча ў жывым эфіры ў праграме "Клас і К". Пачатак — а 17-й гадзіне.

Аматараў паэзіі чакае сустрэча з "госцяй нябеснай" у праграме "Канцэртная зала" ў нядзелю ў 21.30, а ў праграме "Радыёпарк", якая пачынаецца ў нядзелю ў 16 гадзін, — "Кніжны кіёск" — навінкі айчынных і замежных выдавецтваў. І яшчэ адна перадача, якая павінна выклікаць цікавасць у тых, хто любіць роднае слова — "Беларускі альбом", які гучыць з 14 да 16 гадзін у нядзелю.

**КАНАЛ КУЛЬТУРА**

Панядзелак, 7 красавіка. 8.10 "Мелодыя абуджэння". 10.00 Літаратурныя чытанні. 17.00 З фондаў радыё. М. Калошка. "Не праміні свой лёс". Радыёпастаноўка. В. Малагуша. Вершы.

Аўторак. "Літаратурны аўторак" прапануе наступныя сустрэчы: у 12.10 "Дзеяслоў". Л. Рублеўскай, у 13.10 "Таленты з глыбінкі" М. Прохар, у 14.10 "Магія творчасці" З. Каваленкі", у 14.40 "Сугалоссе У. Дзюбы", з 15.00 "Ліставанні" І. Рыбіцкага, 16.10 "Гаспода" Г. Шаблінскай.

Чацвер. У 11.00 — "Натхненне". Паэт Васіль Макарэвіч прапаноўвае новыя творы з літаратурнай пошты.

Пятніца. 17.00 З фондаў радыё. В. Шукшын "Я прыйшоў даць вам волю".

Субота. Паўтор аўтарскіх праграм "Гаспода", "Брама", "Сентыментальнае паляванне".

Нядзеля. 19.00 "Тэатр перад мікрафонам". Л. Андрэеў "Кацярына Іванаўна". Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа.

# ІДЭАЛОГІЯ БУДУЧЫНІ — ІДЭАЛОГІЯ ЛЮБОВІ

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 2)**

А і дагэтуль жа прасвятлення шукаюць нямногія: цяжка, невядома як, а то і невядома навошта... І мала чым дапамогуць у гэтым выпадку словы, палымяныя заклікі і "найноўшыя" — старыя, як свет, — духоўныя вучэнні. Людзі ідуць за тым, хто жыве так, як гаворыць, і — больш таго! — шчаслівы ў гэтым сваім жыцці. Шчаслівы — кожным пражытым імгненнем, усім, чым бы ні адорвала яно яго з ласкі Божае: і шчаслівая радасць радасна ўспрымаецца і прымаецца, і выпрабаванне цяжкае. Мажліва, не ўсе ідуць і не ўсе, хто паследуе за сваім абраннікам, застануцца вернымі абранаму шляху і дойдуць да канца, але ёсць і тыя, хто не адступаецца, ёсць тыя, што не адракаюцца, што ўрэшце ўсведамляюць сваё прызначэнне. У гэты свой прыход на Зямлю, ці ў наступны, ці праз многія і многія вякі.

Самае распаўсюджанае перакананне: "усё мы — чалавекі" — глыбока памылковае. Чалавечае аблічча — толькі сведчанне прыналежнасці (на гэтым канкрэтным этапе, у гэтым увасабленні) да чалавечага роду, ч а л а в е к а м — любому з нас, атрымаўшаму дар падобнага ўвасаблення, — трэба стаць. Стаць! — не проста зжываючы дадзены вынік, а вырастаючы, дарастаючы да сябе сапраўднага, да сябе, акрыленага Любоўю Бога — любоўю да Бога.

Мая душа ўсміхаецца, калі хтосьці ў гаворцы са мною або з газетнае паласы ці экрана саманадзейна заяўляе: "я не веру ў Бога, што б за гэтым ні стаяла". За Г э т ы м — усё. Усё, што мы ў стане ўявіць і чаго нават не ўяўляем. Жыццё — толькі адно з імёнаў Бога, і нідзе (ні ў рэальным, як мы яго ўспрымаем, ні ў ірэальным свеце) няма нічога і нікога, яму не падуладнага. Макавае зярнятка выспявае ва ўтробе кветкі, пераўтвораная ў плод, прымаючы дараванае яму жыццё з ціхай удзячнасцю: упадзе ў зямлю, каб чакаць новае вясны і прарасці, — на тое воля Божая, здзейбне яго птушка малая — і гэта прадвызначана. Бо ва ўсім — Бог:і ў ім, зярняці, і ў глебе, і ў вільгаці, і ў птушцы, і ў тым, чыёй здабычаю птушка стане, прадоўжыўшы жыццё ў іншай форме, у іншым, неўявімым для нас, памкненні да Святла, да Неба. Тленнае тленам і становіцца, духоўнае ў духу ўваскрасае — калі сказана! колькі разоў паўторана! Што ж мы баімся адпусціць павадок, якім самі сябе да сцяны паміж былым і наступным навязваем?

Цёмна вакол тады, калі згас у душы агонь — агонь, які мы называем любоўю. А як любіш ты ў жыцці шчыра, па-сапраўднаму хоць што-небудзь, то любіш і Бога, Тварца ўсяго, то ёсць і можа спраўдзіцца спадзеўка Яго на цябе — сёння ці ў вяках. Прага кожнае зёлкі, кожнае расліны зацвісці і даць плод, палёт матылька між струнаў сонечнага святла, танец жураўлёў пад высокім небам, трубныя клічы сланоў, што ўслаўляюць Прыроду, усмешка немаўляці свайму Анёлу-ахоўніку, бачнаму толькі яму, магутны рык вадаспада, цёплы павеў ветра, цёплае слова любві і падтрымкі... Розніца толькі ў ступені праявы любві да Тварца — да Жыцця, ім штоміг даруемага, і нам, колькі б мы ні пыжыліся, колькі б ні абвяшчалі сябе "царамі прыроды", так і не ўсвядоміўшы, што мы з ёю — адно, заплюшчыўшы шчодрасць часцей за ўсё няма чым. Няма чым, хоць патрабуецца так мала! — следаваць запаведзям, любіць бліжняга, як самога сябе...

Ты можаш запярэчыць, аспрэчыўшы не сёння і не мною сказанае тым, што мы — дзеці Зямлі, а зямная цывілізацыя на дадзеным этапе эвалюцыі не проста спаўядае, але і адкрыта ўжо дэманструе праціўленне дабру і, значыць, Волі Бога, і ў нечым будзеш мець рацыю. Вось толькі гасіо не вызначае (і ніколі не вызначала) і с ц і н у. Мэта чалавека — с т а ц ь чалавекам (я сказала б: богачалавекам, калі б не ведала, што чалавек і ёсць бог) у тых абставінах, у якіх апынуўся і якіх, нягледзячы на іх пратэсты і скаргі, заслугоўвае.

Пэўна ж, прасцей зліцца з натоўпам — з масаю гэткіх жа, як сам, індывідуумаў без ярка выяўленай і, часцей за ўсё, не прымальнай для іншых, індывідуальнасці, цешачы сябе нічым не абгрунтаванай думкаю, што хто ўжо хто, а ты здолееш вылучыцца, адкроіць ад агульнага сваё. Вось толькі, ад якога а г у л ь н а г а? Для чаго? Чалавечы род так або йначай (з табою або без цябе) прадоўжыцца, ты — а с а б і с т а ты! — для чаго прыйшоў, для чаго нарадзіўся? Пытанне, як да яго ні стаўся, усё роўна некалі дагоніць, таму што а г у л ь н а е (адно на ўсіх) — Жыццё. І калі памятаць, што Жыццё — толькі адно з імёнаў Бога, то што ты збіраешся, спадзяваешся ўсякі раз "адкроіць", што ты хочаш (свядома ці несвядома) прысвоіць?

Май усё і не лічы сваім, вучылі мудрыя, застаючыся шчаслівымі і тады, калі адмаўляліся ад усіх зямных шчадротаў, а хто, скажы, сёння, у свеце ўласнікаў і бяздумных спажыўцоў усяго і ўся — шчаслівы? Тое і яно.

У душы я не прымаю слова "масы" ў дачыненні да людзей (народ і народныя масы — адчуваеш розніцу?), хоць і змушана прызнаць, што яно з'явілася ў агульным ужытку невыпадкова: маса — неўпарадкаванасць — незгарманізаванасць — хаос... Сутнасць, у чым бы, у якой бы форме ні праяўлялася, усюды адна і тая ж: змрок павінен згусціцца, любая маса, любая энергія павінна сціцца, перш чым выбухне — новай зоркай, новай ідэяй, новай праявай генія, геніяльнасці (навука пацвярджае гэта не толькі ў квантавай фізіцы, але і ў гісторыі эвалюцыі чалавецтва). І гэта дакладна і ў сусветным маштабе, і ў маштабе жыцця адной асобнай асобы.

Новая ступень развіцця, чаго б гэта ні тычылася, — формы, свядомасці ці духу, дасягаецца максімальнай сканцэнтраванасцю на вызначанай мэце, выўленаю праз радаснае памкненне, і ўсё большым узмацненнем напружання энергіі, фізічнай, псіхічнай ці духоўнай. Напружанне, якое прыводзіць да выбуху (у прамым або ў пераносным сэнсе) — да ўспышкі, якая на міг (няхай усяго толькі на міг!) высвечвае ісціну, яшчэ адну яе грань. Вось чаму наіўнымі і безвыніковымі застаюцца ўсе спадзяванні на тое, што можна лёгка, учапіўшыся за руку каго дужэйшага ці ўскараскаўшыся на плечы каго вышэйшага, патрапіць "у рай", апынуцца каля ног Госпада. Нават высокія духі, вучні Хрыста, сталі Апосталамі толькі пасля таго, як прайшлі наканаванае ім да канца: спатрэбіліся не адно намаганне душы, не адна перамога духа... Што ўжо казаць пра нас, грэшных?

Першае ўсведамленне сваёй адметнасці, адрознасці ад усіх астатніх — праз глыбокае адчуванне еднасці, злітасці не адно з імі, а і з усім на свеце і ў Космасе — напаўнее, перапаўнее радаснай сілаю: ты ўсё можаш, усё здольны вытрываць і перамагчы, усім гатовы ахвяраваць дзеля магчымасці наступнага кроку, дзеля набліжэння да Святла, на міг адкрытага душы. Упэўненасць гэта і ўтрымвае ў душы радасць, але веданне, усведамленне прычын не падаецца на першым этапе важным ці, тым больш, неабходным: святло, выбліснуўшы, не павінна згаснуць, знікнуць! — вось адзіная задача.

І ўсё ж, калі ты абраў служэнне любові, то пойдзеш, пройдзеш, вытрываўшы ўсе выпрабаванні, табе наканаваныя, помнячы, што твайго подзвігу, тваёй любові і яе святла чакаюць іншыя, слабейшыя за цябе на гэтым прамежку шляху, і калі ты адступіш, калі спалохаешся і адступіш, многіх здолее адцясніць, задушыць змрок. Я знаю.

Мераю ўсяго з'яўляецца Бог, а не чалавек. Варта забыць пра гэта ў сваім пошуку Ісціны хоць на імгненне — і апынешся ва ўладзе злосных чараў каго-небудзь са смяротных, пэўны час ці да канца жыцця слугуючы потым чужой амбіцыі, чужому кашчуннаму жаданню заняць у тваім сэрцы месца Бога. Не месца Бога, канечне, а месца ідала, але многім і многім, на жаль, уласціва верыць падобнай падмене. Мала хто ў пошуку свайго ідэалу ні разу не памыляўся, і добра, калі памылка не станавілася ракавою: сілы зла мяняюць імёны і аблічча, павадак жа сваіх не мяняюць, пры першай жа мажлівасці вынішчаючы ў чалавечай душы ўсё дашчэнту.

Я гатова пагадзіцца, што мы жывём "не ў лепшыя часы", хоць тут жа ўсміхнуся на сваю згоду: а дзе, калі яны былі л е п ш ы м і? Бачыцца звычайна тое, на што скіраваны позірк. Паланіць, непазбежна скоўвае тое, чаго прагнеш. Пужае адно тое, што не зжыта ў табе. І калі адусюль чуеш, што свет перажывае найгоршы з часоў, калі са злоснай ухмылкаю (то спадцішка, то адкрыта) злодзей дапамагае злодзею, калі скрозь пайшлі на распродаж Ісціна і Сумленне, а ўсім як ёсць "запраўляюць" злосніцкі і фарысеі, то хочацца не проста пярэчыць, але і засведчыць: за ўсёй мітуснёй, выкліканай, як заззвычай, агульнымі хлуснёй і "неразумеем", праз маўчанне і адзіноту моцных духам узыходзіць "усмешка заўтрашняга народа". Так было заўсёды. Так будзе да веку — да таго часу, калі ва ўсякім сэрцы зацвіце любоў, калі ўсе сэрцы зазззяюць насустрач Любві Айца Нябеснага.

Здзіцца, чую твой уздых: гэта здарыцца няскора... Пэўна ж, не заўтра. Але што гэта мяняе, калі т в а ё сэрца ўзгарэлася прагаю любві і цябе чакае першы светлы дар — дар разумення?




27 сакавіка адбылося чарговае пасяджэнне літсуполкі "Літаратурны квартал". Акрамя завсёднікаў: Наталлі Дзянісавай, Наталлі Капы, Наталлі Кучмель, Вікі Трэнас, Ігара Клепікава, Сяргея Патаранскага, Усевалада Гарачкі, прысутнічалі і навічкі: Кацярына Тычына — выкладчыца МДЛУ, а таксама школьнікі Кірыл Бачкалевіч і Андрэй Жданові́ч.

Тэмай абмеркавання была творчасць Міколы Кандратава, які ўсяго толькі трэці раз наведвае пасяджэнне, але адразу ж прыцягнуў увагу прысутных сваімі творамі.

У абмеркаванні прынялі ўдзел Наталля Капа, Аксана Спрынчан, Усевалад Гарачка, Наталля Кучмель. Найбольш лаканічна і поўна адносна творчасці М. Кандратава выказалася Н. Кучмель. Яна адзначыла наяўнасць "таленту такой сілы, што ён здольны прабіцца нават праз спёклы пласт беларускай літаратурнай традыцыі", якая ў дадзеным выпадку перастае быць апорай, а, наадварот, пачынае скоўваць. Многія іншыя выступоўцы выказваліся прыблізна ў такім ключы: "Пішы не так, а гэтак". Сукупнасць гэтых навучальных рэплікаў нарадзіла ў Ігара Клепікава наступныя радкі:

*Не пішыце пра вясну,*
*Не пішыце пра вайну,*
*Пра каханне і пра Бога,*
*Смерць, самоту і дарогу,*
*Пра дажджы і пра снягі,*
*Пра чужыя берагі,*
*Лета, восень і зіму,*
*Танцы, шманцы ды турму,*
*Пра карціну на сцяне...*

*Напішыце пра мяне!*

Падсумоўваючы вынікі абмеркавання Віктар Шніп зазначыў адносна паэзіі М. Кандратава наступнае: "Ён (аўтар) сам выбірае куды яму ісці. Гэта не электрычка, якая ідзе па рэйках. Паэт вольны хадзіць па траве, а там могуць быць і міны, і кветкі".

Пасля, як звычайна, чыталіся вершы "па коле". Была вызначана таксама тэма наступнага абмеркавання — паэзія У. Гарачкі. Сваю думку па гэтым пытанні жадаючыя змогуць выказаць праз тыдзень. А пасяджэнне, якое мае адбыцца трэцяга красавіка, будзе цалкам прысвечана чытанню новых твораў.

**У. Г.**

**Радакцыя газеты "Літаратура і мастацтва" выказвае шчырае спачуванне, нашаму даўняму аўтару, паэту Пятру ПРЫХОДЗЬКУ ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю роднага брата Прохара Іванавіча ЖУКАВА, прафесара, доктара біялагічных навук, аўтара некалькіх кніг і даследаванняў па прыродзе Беларусі.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае спачуванне паэту Пятру ПРЫХОДЗЬКУ ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю брата.**

**З прычыны заўчаснай смерці сястры Уладзіміра Караткевіча, Наталлі Сямёнаўны Кучкоўскай, выказваем шчырае спачуванне яе родным і блізкім.**

**Супрацоўнікі "Літаратуры і мастацтва"**



ФЭСТЫ

# «МІНСКАЯ ВЯСНА — 2003»

**6—29 красавіка**



**Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі (вул. Інтэрнацыянальная, 30).**

**6 — Акадэмічны сімфанічны аркестр РБ.** Дырыжор К. Н. Лэйн (ЗША). Саліст К. Красніцкі (фартэпіяна). У праграме Брамс, Сімфонія № 3; Рахманінаў, Канцэрт № 2 для фартэпіяна з аркестрам.

**13 — Фартэпіянная музыка С. Рахманінава (да 130-годдзя з дня нараджэння).** Граюць Ц. Шчарбакоў, Д. Уласюк, В. Стахіевіч, А. Музыкантаў, С. Смірноў.

**20 — Піяніст А. Сікорскі.** У праграме Рахманінаў, Мусаргскі.

**26 — "Усяночнае дбанне" С. Рахманінава.** Выконвае Акадэмічная харавая капэла РБ імя Р. Шырмы. Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Л. Яфімава.

**Зала камернай музыкі (пр. Ф. Скарыны, 44а)**

**10 — Мінскі струнны квартэт у складзе:** Ю. Герман (скрыпка), А. Уласенка (скрыпка), У. Хімарода (альт), Д. Скляроў (віяланчэль). Удзельнічае піяніст Ю. Гільдзюк. Творы Рахманінава, Шумана.

**11 — Грае І. Алоўнікаў (арган, фартэпіяна).** У праграме Бёльман, Франк, Ліст, Глінка, Чайкоўскі, Рахманінаў.

**12 — Камерныя творы ў выкананні Г. Забары (кларнет), У. Рылаткі (альт), Ю. Гільдзюка (фартэпіяна).** Музыка Моцарта, Брамса, Шумана.

**15 — Скрыпічная музыка.** Выканаўцы з Германіі К. Гокель (скрыпка), Л. Гевойна (фартэпіяна). У праграме Элгар, Мендэльсон, Шуман, Штокгаўзен.

**22 — Французскі піяніст М. Дальберто.** Канцэрт з твораў Шуберта, Ліста, Шапэна, арганізаваны пры садзейнічанні пасольства Францыі ў Беларусі.

**24 — Дзяржаўны камерны хор РБ.** Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Н. Міхайлава. Салісты Р. Шытава (мецца-сапрана) ды Я. Ермакоў (тэнар). У праграме Гурылёў, Абаза, Лядаў, Атрашкевіч, Сімаковіч.

**25 — Канцэрт Г. Паўлянок (мецца-сапрана) і хору "Арыента"** пад кіраўніцтвам А. Гуляевай (Цэнтр "Ранак" Маскоўскага раёна сталіцы). Партыя фартэпіяна А. Афанасьева. У праграме Лоці, Віла-Лобас, Качыні, Гендэль, Рахманінаў, Чайкоўскі, Свірыдаў, Літвіноўскі, беларускія народныя песні ды інш.

**28, 29 — Арганістка Г. Макрова (Украіна).** Праграмы двух вечароў уключаюць творы Баха, Райнбергера, Янга, Дзюбуа ды інш.

**Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета РБ (пл. Парыжскай Камуны, 1)**

**14 — Акадэмічны сімфанічны аркестр РБ.** Галоўны дырыжор А. Анісімаў. Саліст С. Анісімаў (фартэпіяна). Музыка Чайкоўскага: Канцэрт для фартэпіяна з аркестрам № 1, Сімфонія № 4.

**Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага (вул. Валадарскага, 5)**

28 — Капэла "Sonorus" пад кіраўніцтвам А. Шута. Салісты Т. Пятрова (сапрана), І. Цемчанка (сапрана). "Паўночныя кветкі" Мдзівані — прэм'ера новай рэдакцыі твора.



*НА ЗДЫМКАХ: лаўрэат міжнародных конкурсаў Аляксандр МУЗЫКАНТАЎ; мастацкі кіраўнік капэлы "Sonorus" Аляксей ШУТ і кампазітар Андрэй МДЗІВАНІ.*

АКЦЭНТ

**ДАНІНА ЮБІЛЕЮ** вялікага Музыканта XX (можна казаць, і XXI) стагоддзя, кампазітара, піяніста, дырыжора Сяргея Рахманінава — адзін з акцэнтаў "Мінскай вясны". 130 гадоў мінула з дня яго нараджэння, 60 — з другой, журботнай даты, якая пазначыла заканчэнне зямнога шляху творцы-эмігранта ў далёкай ад радзімы Амерыцы.



Зрэшты, дата — не дата, а без музыкі Рахманінава сучаснае канцэртнае жыццё і ўявіць цяжка. Прынамсі, піяністы ўсяго свету маюць яго творы ў канцэртным, конкурсным, педагагічным рэпертуары. І праграма "Мінскай вясны" асвечана зоркай Рахманінава. Яго музыку будуць выконваць і Мінскі струнны квартэт, і салісты Ігар Алоўнікаў, Андрэй Сікорскі. Фартэпіянныя творы Рахманінава прадставяць у манаграфічным канцэрце маладыя піяністы — лаўрэаты міжнародных конкурсаў. Акадэмічная харавая капэла РБ імя Р. Шырмы, канцэрт якой прыпадае на дзень асаблівы — 26 красавіка (пярэдадзень Вялікоднага свята паводле праваслаўнага календара і чарговая дата чарнобыльскай бяды), — спявае таксама музыку Сяргея Рахманінава: "Усяночнае дбанне"...

А на пачатку "Мінскай вясны" прагучыць яго славуты До мінорны Канцэрт № 2 для фартэпіяна з аркестрам. Саліраваць будзе лаўрэат міжнародных конкурсаў Канстанцін Красніцкі, ганараваны, дарэчы, прэстыжнай узнагародай Міжнароднага спаборніцтва піяністаў імя С. Рахманінава.

С. Б.

АФІША КРАСАВІКА

**Нацыянальны акадэмічны тэатр балета пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-06-66**

**4** — С. Пракоф'еў "Рамэо і Джульета"
**6** — Ц. Пуні "Эсмеральда"
**9** — П. Чайкоўскі "Шчаўкунчык"
**11, 15** — Л. Герольд "Марная перасцярога" (прэм'ера)

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-10-41**

**5** — Д. Расіні "Севільскі цырульнік"
**6** — Г. Даніцэці "Лючыя дзі Ламермур"
**8** — У. Солтан "Дзікае паляванне караля Стаха"
**10** — Д. Вердзі "Набука"
**11** — М. Рымскі-Корсакаў "Царская нявеста"

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Беларускі дзяржаўны музычны тэатр вул. Мяснікова, 44, тэл. 220-81-26, 220-92-54**

**4** — "Галактыка кахання", музычнае шоу
**5** — Вечар балета (М. Рымскі-Корсакаў "Шахерэзада", на музыку Равеля ("Балеро"), "Новыя амазонкі")
**6 (раніца)** — І. Левін "Айбаліт-2002", мюзікл
**6 (вечар)** — І. Кальман "Марыца", аперэта
**8** — І. Кальман "Прынцэса цырка", аперэта
**9** — М. Самойлаў "Дарагая Памэла", мюзікл
**10** — О. Штраус "Капялюш Напалеона", аперэта
**11** — Ф. Легар "Вясёлая ўдава"

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы вул. Энгельса, 7, тэл.227-17-17**

**4** — А. Курэйчык "Згублены рай", драма (прэм'ера)
**5** — А. Астроўскі "Свае людзі — паладзім", трагікамічныя сцэны з жыцця глухамані
**6** — У. Шэкспір "Сон у чарадзейную ноч пасярэдзіне лета", казачная феерыя
**7** — А. Дудараў "Кім", "крымінальная" меладрама
**9** — Ф. Дзюрэнмат "Ромул Вялікі", гістарычная недакладная камедыя
**10** — Д. Патрык "Дзіўная місіс Сэвідж", камедыя (прэм'ера)
**11** — К. Гальдоні "К'ёджаўскія перабрэхі", камедыя

**Малая сцэна вул. Энгельса,12**

**4** — А. Папова "Муж для паэтэсы", камедыя-імправізацыя
**6** — Я. Баршчэўскі "Беларусь у фантастычных апавяданнях", прэм'ера (рэжысёр — У. Савіцкі, у галоўнай ролі — Г. Аўсяннікаў)
**12** — Ф. Шылер "Каварства і любоў", мяшчанская драма

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага вул. Валадарскага, 5, тэл. 220-15-41, 220-39-66**

**Вялікая сцэна**

**4** — Ф. Рэньяр "Адзіны спадкаемца", камедыя
**5** — "Амфітрыён", інтымныя сцэны з жыцця людзей і багоў
**6** — У. Шэкспір "Трагічная аповесць пра Гамлета, прынца Дацкага"
**9** — А. Папова "Сняданак на траве" (прэм'ера), трагікамедыя

**Малая сцэна**

**8** — Э. Радзінскі, Ф. Дастаеўскі "Рулетка"

**Пачатак ранішніх спектакляў а 11-й, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі вул. Крапоткіна, 44, тэл. 234-60-08**

**4** — З. Сагалаў "Палёты з анёлам", спектакль пра М. Шагала

Тыдзень лепшых прэм'ер РТБД (У Палацы Рэспублікі)

**9** — А. Курэйчык "Понцій Пілат", драма
**10** — М. Рудкоўскі "Жанчыны Бергмана"
**11** — В. Панін "Песні ваўка"
**12** — З. Сагалаў "Палёты з анёлам"
**13** — Я. Купала "Адвечная песня"

**Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне**

**Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр вул. Даўмана,1, тэл.289-32-62**

**4** — У. Шэкспір "Жарсці ў Віндзоры", камедыя
**5** — Э. Іянэску "Трызненне ўдваіх", парадаксальная камедыя
**6** — І. Зінгер "Тойбеле і яе дэман", трагікамедыя
**8** — А. Астроўскі "Позняе каханне", раман
**9** — Бамаршэ "Вар'яцкі дзень, альбо Вяселле Фігара"
**10** — Ж.-Б. Мальер "Хітрыкі Скапэна"
**11** — Фестываль сучаснага галандскага мастацтва "Галандскае нашэсце"

**Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне**

**Тэатр-студыя кінаакцёра пр. Машэрава,13, тэл. 223-08-11**

**4** — Л. Вернейль "Выкраданне Алены"
**5** — "Айседора. Танец кахання"
**6, 8** — Д. Кілці "Мілы хлус"
**9, 10** — А. Астроўскі "Таленты і прыхільнікі"
**11** — "Фантазіі паводле Гогаля", сатыра
**12, 13** — Б. Шоу "Пігмаліён", музычная камедыя

**Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне**

ВІНШУЕМ!

## НОВЫ СТАТУС

Пастановай урада Дзяржаўнаму акадэмічнаму народнаму аркестру Беларусі імя І. Жыновіча днямі нададзены статус Нацыянальнага. Заснаваны легендарным артыстам, чыё імя ўвекавечана ў цяперашняй назве, гэты калектыў шмат гадоў працаваў на прэстыж беларускага прафесійнага мастацтва, рабіў важкі ўнёсак у справу зберажэння і развіцця нашай своеадметнай нацыянальнай культуры. За гэтыя заслугі ўрад і надаў аркестру новы афіцыйны статус. Але па сутнасці жыновічаўцы як ніхто іншы заўжды адпавядалі высокай годнасці нацыянальнага творчага калектыву.

С. Б.




Выходзіць З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**

**Віктар ШНІП**







**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**
**ТЭЛЕФОНЫ:**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-44-04**

**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 284-7965
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965
літаратурнага жыцця — 284-7965
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965
паэзіі і прозы — 284-7965
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно — 284-8153
выяўленчага мастацтва — 284-7965
карэктарская — 284-8091
бухгалтэрыя — 284-4991
Тэл./факс — 284-85-25





Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1636
Нумар падпісаны ў друк 2.04.2003 у 15.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 808

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12